PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 16 (2240) Год XLIV Беласток 18 красавіка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Чэхію задзівілі дамаганні польскіх назваў

Збынек ПАВЛЯЧЫК
(„Mladá Fronta Dnes", 24.03.1999, Praha)

ЧЭСКІ-ЦЕШЫН. Надзвычай вострую дыскусію выклікаў у паўночнай Маравіі і Сілезіі нядаўні агульны з'езд Рады Кангрэса палякаў у Чэшскай Рэспубліцы. Кангрэс імкнецца ўвесці двухмоўныя чэшска-польскія назвы ў пяцідзесяці гмінах, гарадах і гмінных радах.

— Сёння двухмоўныя назвы, заўтра аўтаномія, а паслязаўтра тут будзе Косава, — адрэагаваў Влястыміль Шымік з Нові-Йічына. — Калі ім не падабаецца, хай забіраюцца назад у Польшчу.

— Я вырасла ў Тршынцы і польскія надпісы заўжды мне перашкаджалі. Я задаволена, што пераехала ў Остраву. Не разумею, чаму палякі мелі б у нас так распараджацца, — адзначыла Рэната Коталява з Остравы.

— Мы не робім гэтага супраць чэхаў, хочам толькі тое, на што маем права, — сказаў намеснік старшыні Рады Кангрэса палякаў Браніслаў Валіцкі.

У рэгіёне жыве каля пяцідзесяці тысяч палякаў, якія дамагаюцца двухмоўнасці на аснове дакумента Рады Еўропы — Рамачнага пагаднення аб ахове нацыянальных меншасцей. У мінулым годзе пагадненне зацвердзіў чэшскі парламент і прэзідэнт Вацлаў Гавел.

Згодна дакументу прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, улічваючы спецыфіку сваёй сітуацыі, могуць уводзіць традыцыйныя мясцовыя назвы, назвы вуліц ды іншыя публічныя тапаграфічныя адзнакі таксама і на мове меншасці.

— Нам трэба выконваць пагадненне. Калі палякі лічаць, што будзе ім гэта ў карысць, дык двухмоўныя назвы ім належацца. Трэба аднак, каб паасобныя гміны прынялі пастановы, — лічыць Радзім Турэк з Тршынца, дэпутат ад Чэшскай сацыял-дэмакратычнай партыі, які галасаваў за ўхваленнем Рамачнага пагаднення. — Не прыгадваю сабе, каб нехта супраціўляўся, — дадаў яшчэ дэпутат.

— Гэта дзеючы закон, чыноўнікам трэба яму падпарадкавацца, — сказала Андзеля Барташава з пражскага Інфармацыйна-дакументацыйнага цэнтра Рады Еўропы.

Пэтр Уль, упаўнаважаны ўрада па пытаннях аховы правоў чалавека, ідзе яшчэ далей.

— Рамачнае пагадненне з пункту гледжання заканадаўства мае першынство перад законам. З двухмоўнымі надпісамі трэба нам як найхутчэй справіцца, — заявіў Уль. — Польская нацыянальная меншасць, якая жыве ў Цешыне — адзіная кампактная меншасць у Чэшскай Рэспубліцы і таму трэба нам яе ахоўваць, — дадаў упаўнаважаны ўрада.

У Радзе Кангрэса палякаў няма аднак яснасці адносна сістэмы, паводле

[працяг ☞ 5]


Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

# БГТ пасля з'езда

Мікола ВАЎРАНЮК

**Беларускае гістарычнае таварыства 31 сакавіка ў памяшканнях Беластоцкага універсітэта праводзіла агульны сход. Удзельнікі падвялі вынікі дзейнасці арганізацыі за апошнія тры гады і перавыбралі ўлады.**

Беларускае гістарычнае таварыства як грамадская арганізацыя ўзнікла ў 1993 годзе. Да таго часу асяроддзе беларускіх гуманітарыяў Беласточчыны чатыры гады патрабавала адкрыцця Інстытута беларускай культуры ў тадышнім Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Безвынікова. Наймацнейшае аказалася асяроддзе гісторыкаў і абітурыентаў гістарычных аддзяленняў розных польскіх універсітэтаў. Доказам гэтаму не толькі існаванне самой арганізацыі, але перш-наперш яе дзейнасць.

Восем манаграфій па гісторыі Беласточчыны і Беларусі. Навуковыя канферэнцыі ў Беластоку, Бельску, Гайнаўцы, Орлі, Саколцы. Вяртанне памяці пра выдатных людзей Беласточчыны, як хаця б Ігнат Даніловіч, Яраслаў Кастыцэвіч, шэраг беларускіх дзеячаў Сакольшчыны і важныя падзеі, як уцёкі праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны ў Расію ў 1915 годзе — трагічнае бежанства. Дакументальны фільм „Беларусь. Шлях да незалежнасці", зроблены супольна з Беластоцкім тэлебачаннем.

Кожнае паўгода выдаецца на двухстах старонках „Беларускі гістарычны зборнік"(„Białoruskie Zeszyty Historyczne"). Гэта, можна сказаць, флагман таварыства, у якім друкуюцца вядучыя польскія і беларускія гісторыкі. Паводле яго можна прасачыць і эвалюцыю самога БГТ. Ужо не абмяжоўваецца яно апісваннем лакальнай традыцыі, а ўсё больш месца займае ў ім, побач польска-беларускіх адносін, агульнабеларуская гісторыя. Паўплывала на гэта ў не малой ступені цяжкае становішча гістарычнай навукі ў Беларусі. Падыход да гісторыі як да аднаго з элементаў палітычнай барацьбы, уціск гісторыкаў, цяжкасці з доступам да архіваў і абмежаваныя магчымасці публікацыі скіроўваюць увагу калег з Беларусі на беластоцкае выданне. І „Беларускі гістарычны зборнік" стараецца апраўдаць іхнія спадзяванні.

Хаця з 1993 года ў навуковым жыцці Беластока прайшлі значныя змены — Філіял Варшаўскага універсітэта стаў самастойным Універсітэтам у Беластоку з Кафедрай беларускай культуры, — Беларускае гістарычнае таварыства надалей дзейнічае як грамадская арганізацыя. І мае шмат працы.

Удзельнікі з'езда падкрэслівалі, што трэба прыкласці больш намаганняў дзеля прапаганды і распаўсюджвання сваіх выданняў. Трэба шукаць сродкі на дзейнасць не толькі ў Міністэрстве культуры, але і з іншых крыніц. Амаль усе пагадзіліся, што эфектыўнасці працы спрыяла б уласнае памяшканне, якога ў таварыства няма і карыстаецца гасціннасцю „Нівы" і універсітэта. З раскіданых па прыватных руках кніжак і дакументаў трэба пачаць ствараць архіў і бібліятэку БГТ, — гаварылі сябры арганізацыі. Падтрымана была ідэя Вячаслава Харужага пабудаваць помнік на магіле забітага палякамі вясной 1944 года беларускага дзеяча д-ра Мікалая Чарнецкага.

Прыярытэтам члены таварыства лічаць выдаванне чарговых нумароў „Беларускага гістарычнага зборніка". Кніжкі будуць з'яўляцца па меры фінансавых сродкаў. З запланаваных на гэты год дзвюх канферэнцый трэба бу-

[працяг ☞ 3]

## Сацыяльная апека

Арлянская гміна налічвае амаль 4 000 жыхароў, у тым ліку 1 600 у пенсіённым узросце. Галоўнымі крыніцамі ўтрымання з'яўляюцца земляробства і пенсіі. На агульны лік 166 беспрацоўных ажно 155 асоб страціла права на дапамогу па беспрацоўі. Многія з іх вымушаны прасіць падтрымкі ў Гмінным асяродку сацыяльнай дапамогі.

[болей ☞ 3]

## Старажытная Сербія і Косава

Сёння ў час новага падзелу зонаў уплыву ў свеце, трыста гадоў пасля першых этнічных зменаў на тэрыторыі Косава, нехта цынічна выкарыстоўвае гістарычны канфлікт паміж сербамі і албанцамі. У Рашцы-Косаве скрыжаваліся інтарэсы вялікіх мафіяў сучаснага свету. Найменш вінаватыя людзі — сербы і албанцы — плацяць і доўга яшчэ плаціць будуць рахункі за чужыя махлярствы. Крайне дэмагагічная, прапаганда не дазваляе нават зарыентавацца, дзеля якіх мэтаў выкліканы новы пажар у Еўропе.

[нарыс ☞ 4]

## Набор у ВНУ Беларусі

Пасля экзаменаў па будынку Беларускага таварыства хадзіла ўсхваляваная моладзь, сядзелі і стаялі прыехаўшыя з імі бацькі і настаўнікі. Усе чакалі вынікаў, непакоіліся. Некаторым аднак здавалася, што экзамен будзе чыстай фармальнасцю, і яны былі спакайнейшыя. Так ім здавалася, але камісія была патрабавальная.

[экзамен ☞ 5]

## Кашуля і гарсэт Падляшша

Адзенне ў традыцыйнай культуры было вельмі важным элементам, якому жанчыны прысвячалі велізарную ўвагу, не шкадуючы матэрыяльных сродкаў на яго аздабленне. Селянін ці жыхар малога мястэчка мог сціпла, бедна жыць, убога харчавацца, але на торг, царкоўнае свята, вяселле павінен быў выступіць багата, каб усім паказаць вартасць сваёй асобы, трымаць гонар

[этнаграфія ☞ 9]

## Прадбачыў сваю смерць

Дзіўны гэта быў сон. Сон, не сон, як бы сапраўдным усё было. Лета. З неба льецца жар, аж дыхаць няма чым. Іду я знаёмай ружанскай вуліцай проста ў піўную смагу ўтапіць. Чую як шчыпае ў глотку халоднае піністае піва. Выпіў, адставіў кубак і выйшаў у напрамку Зэльвянкі...

[невераго̀днае ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Адзін кандыдат ужо ў турме

Кампанія па выбарах прэзідэнта Беларусі, якія згодна легітымнай Канстытуцыі 1994 года павінны адбыцца 16 мая, набывае ўсё больш драматычны характар. 31 сакавіка старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар афіцыйна аб'явіў кандыдатамі ў прэзідэнты Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра. За абодвух было сабрана на некалькі дзесяткаў тысяч больш подпісаў грамадзян Беларусі, чым патрэбна па закону (каб стаць кандыдатам да прэзідэнцкага крэсла, трэба мець падтрымку сама меней сто тысяч грамадзян). Пасля рэгістрацыі кандыдатаў настаў час агітацыйнай кампаніі. Але абодвум прэтэндэнтам на прэзідэнцтва давядзецца весці яе ў спецыфічных умовах.

Як вядома, Зянон Пазьняк з 1996 года знаходзіцца ў палітычнай эміграцыі і зараз кіруе сваім перадвыбарчым штабам з дапамогай тэлефона і лістоў. А другі кандыдат не мае і такой магчымасці.

30 сакавіка Міхаіл Чыгір быў арыштаваны. Згодна з афіцыйным паведамленнем пракуратуры і Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, яшчэ перад тым, як Аляксандр Лукашэнка прызначыў Чыгіра прэм'ер-міністрам, апошні, з'яўляючыся старшынёй Белаграпрамбанка, загадаў перавесці на адрас нейкай канадскай фірмы мільён долараў. Грошы вернуты не былі („Ніва" паведамляла ўжо пра прагандысцкую кампанію ў Беларусі па вяртанню валютных крэдытаў). 2 красавіка пракуратура санкцыяніравала ў адносінах да экс-прэм'ера меру стрымання — узяццё пад варту.

Міхаіл Чыгір сваёй віны не прызнае і лічыць, што яго арышт мае выключна палітычную афарбоўку. 6 сакавіка жонка экс-прэм'ера паведаміла карэспандэнту радыё „Свабода", што падчас яе спаткання з мужам у следчым ізалятары ён сказаў, што мільён долараў быў пералічаны сумеснай беларуска-канадскай фірме, якая ў 1994 годзе фінансавала перадвыбарчую кампанію Аляксандра Лукашэнкі. (Тады Чыгір быў у камандзе будучага прэзідэнта). У офісе гэтай фірмы нават размяшчаўся перадвыбарчы штаб. Юлія Чыгір збіраецца даказаць невіноўнасць мужа з дапамогай адпаведных дакументаў. Адначасова яна заявіла, што мае паперы, якія даказваюць карупцыйнасць самога Аляксандра Лукашэнкі і яго атачэння. Пра гэта яна паведаміла ў інтэрв'ю „Белорусской деловой газете". Юлія Чыгір сцвярджае, што на рамонт свайго асабняка Лукашэнка ўзяў з дзяржаўнай касы некалькі мільёнаў долараў. Купіў сабе незлічоную колькасць касцюмаў ад Кардэна, кожны з якіх каштуе не менш двух тысяч долараў. Спадарыня Чыгір успамінае, што калі ў 1996 годзе Лукашэнку хацелі аб'явіць імпічмент, яго кухарка вельмі хвалявалася, што неўзабаве могуць даведацца, колькі каштавалі абеды прэзідэнта. Аляксандр Лукашэнка клапоціцца і пра будучыню сваіх дзяцей. Спадарыня Чыгір расказала карэспандэнту „БДГ" наступнае: „Калі муж стаў прэм'ерам, ён (Лукашэнка — аўт.) паклікаў яго і сказаў: „Адмоўся ад свайго катэджа, таму што, разумееш, пытанні будуць задаваць". Муж кажа: „Як я адмоўлюся, я ж катэдж будаваў за свае грошы, я сумленна плаціў за катэдж і любой праверцы гэта дакажу". А Лукашэнка яму гаворыць, мауляў, нашы дзеці ніколі не падымуцца так высока, як мы з табой, не бывае ў адной сям'і двух прэзідэнтаў. Што трэба забяспечыць ім будучыню за мяжой і што катэджы будуць пабудаваны там, за мяжой. Чыгір ад гэтага адмовіўся".

Аляксандр Лукашэнка адразу адрэагаваў на ўспаміны Юліі Чыгір. У адной са сваіх прамоваў ён заявіў, што нехта з правакацыйнымі мэтамі хоча палічыць касцюмы прэзідэнта. А беларускае тэлебачанне паведаміла, што з'явіліся нейкія „кампраматы з-пад спадніцы". Адначасова ў чарговы раз з экранаў было абвешчана пра „злодзея" Чыгіра, які імкнецца стаць прэзідэнтам.

Аднак у беларускіх апазіцыйных колах у крымінальныя падставы арышту Чыгіра ніхто не верыць. Многія лідэры палітычных арганізацый ужо заявілі пратэст у сувязі з палітычным пераследам кандыдата ў прэзідэнты.

Да такой думкі схіляецца і ўрад ЗША. Пра гэта аглядальніку той жа газеты „БДГ" сказала першы сакратар пасольства ЗША ў Беларусі Даяна Максэй: „Арышт былога прэм'ер-міністра Чыгіра з'яўляецца чарговым звяном у непакоячай нас схеме пагроз і запалохвання кіраўніцтвам Беларусі дэмакратычных сілаў у рэспубліцы". Спадарыня Максэй заклікала неадкладна вызваліць Міхаіла Чыгіра і нагадала, што ЗША лічаць — дэмакратычны мандат прэзідэнцтва Лукашэнкі заканчваецца 20 ліпеня гэтага года.

Аляксандр Лукашэнка прытрымліваецца іншай думкі. Ён упэўнены, што будзе кіраваць да 2001 года і тады правядзе выбары прэзідэнта. Якія гэта будуць выбары, ён сказаў 4 красавіка: „Выборы будут абсолютно демократичными. Даже журналистов удивим таким демократизмом. Я не считаю нужным проводить эти выборы по каким-то западным технологиям, врать людям".

**Зміцер Кісель**

## Памёр Генадзь Карпенка

6 красавіка ў рэанімацыйным аддзяленні 9-й Мінскай клінічнай бальніцы памёр вядомы беларускі палітык, адзін з лідэраў дэмакратычнай апазіцыі Генадзь Карпенка.

31 сакавіка ён быў дастаўлены ў бальніцу з дыягназам кровазліцця ў мозг. 1 красавіка яму была зроблена тэрміновая аперацыя па выдаленню гематомы. Але выратаваць яго жыццё не ўдалося. Не прыходзячы ў прытомнасць Генадзь Карпенка памёр.

Беларускае грамадства страціла адну з самых яскравых асоб. У сваіх няпоўных 50 гадоў Генадзь Карпенка быў доктарам тэхнічных навук, сябрам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук. Выявіў сябе як уплывовы палітык, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XII скліканння, віцэ-спікерам Вярхоўнага Савета XIII склікання, намеснікам старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Многія ў Беларусі бачылі ў асобе Генадзя Карпенкі будучага кіраўніка краіны.

**(зк)**

## Галасуюць толькі хворыя!

4 красавіка ў Беларусі праходзілі выбары ў мясцовыя Саветы. Па афіцыйных звестках, яны адбыліся, і народ „у чарговы раз падтрымаў палітыку прэзідэнта і ўрада". Але запалоханыя „вертыкальшчыкі" яўна перастараліся і пераўтварылі выбары ў фарс.

Яшчэ перад выбарамі ўсім кіраўнікам прадпрыемстваў і навучальных устаноў было загадана забяспечыць яўку людзей на выбарчыя ўчасткі. Галоўнае для ўладаў было нават не тое, каго выбяруць, а каб выбары адбыліся, бо апазіцыя іх байкатавала. Людзей проста прымушалі ісці галасаваць.

Тым, хто атрымоўвае заробак з бюджэту, сказалі, што выбары ўсё роўна будуць праведзены, але калі яны не адбудуцца 4 красавіка, то наступны раз грошы пойдуць з людскіх кішэняў. Жыхарам інтэрнатаў пагражалі высяленнем. Рабочым — звальненнем з працы. На выбарчых участках быў арганізаваны гандаль дэфіцытнымі прадуктамі: сасіскамі, яйкамі, таннай кілбасой, якіх ужо даўно няма ў крамах.

Пагроза потым праверыць спісы прагаласаваўшых была цалкам рэальная. Так, у Гродне на выбарчы ўчастак, на якім павінны былі галасаваць студэнты універсітэта, медінстытута і медвучылішча, што жывуць у трох інтэрнатах, яшчэ да 4 красавіка прыходзілі каменданты і бралі спісы ў старшыні выбарчай камісіі. Затым хадзілі па пакоях і прымушалі студэнтаў прагаласаваць датэрмінова. Тых, хто не пагадзіўся і на святы паехаў дахаты, у нядзелю вечарам не пускалі ў інтэрнат, пакуль не прагаласуюць.

Самую дзікую гісторыю расказаў мне гарадзенец Алім Софу. Перад выбарамі ён патрапіў у Гарадзенскую раённую бальніцу з моцнымі болямі ў пазваночніку. Некалькі гадоў таму Алім Софу атрымаў траўму. У бальніцы яму прызначылі неабходны курс лячэння. Аднак прайсці яго ён не змог. За некалькі дзён да выбараў лекарка, якая павінна была лячыць Аліма Софу, зайшла ў палату і паведаміла хворым, што ў нядзелю яны ўсе павінны прагаласаваць у бальніцы, дзе быў арганізаваны выбарчы ўчастак. Спадар Софу сказаў, што не збіраецца галасаваць. „Тады мы вас выпішам", — пачуў ён у адказ. Спачатку Алім падумаў, што гэта жарт, але раніцай 2 красавіка даведаўся, што на самай справе ён „ужо не хворы і павінен пакінуць бальніцу". На наступны дзень, кульгаючы ад болю ў пазваночніку, Алім Софу пайшоў на працу.

У выніку „прапагандысцкай" кампаніі мясцовага кіраўніцтва, згодна афіцыйным звесткам, па Беларусі прагаласавала каля 70% выбаршчыкаў. Асаблівую „сознательность" праявілі католікі, якія, згодна тым жа дадзеным, вырашылі ў Вялікдзень пасля касцёла пайсці на выбарчы ўчастак. Так, больш за ўсё людзей прагаласавала на Гарадзеншчыне — 75,6%. Тут жыве большасць беларускіх католікаў. Асабліва ўражваюць лічбы ў такіх раёнах, як Бераставіцкі — 91,7% і Іўеўскі (радзіма Зянона Пазьняка) — 97%. Нават у часы Савецкага Саюза арганізатары выбараў давалі больш прыстойныя вынікі. А тут атрымаўся і смех (ужо пра выбары пачалі расказваць анекдоты) і грэх (сапсавалі людзям рэлігійныя святы).

А старшыня кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік сказаў, што выбары з дэмакратычнай працэдуры пераўтварыліся ў кампанію па забеспячэнню палітычнай падтрымкі дзяржаўных органаў кіравання.

**Зміцер Кісель**

## Лукашэнка хоча стварыць супердзяржаву

2 красавіка споўнілася тры гады з дня падпісання Аляксандрам Лукашэнкам і Барысам Ельцыным дамовы пра стварэнне Саюза Беларусі і Расіі. Шмат чаго было зроблена кіраўніцтвамі абедзвюх краін за гэты час. Укопвалі і адразу выкопвалі сімвалічныя памежныя слупы, пілі гарэлку за братэрства, падпісвалі процьму розных дамоваў, нават стварылі нешта накшталт аб'яднанага парламента. Але ніякіх рэальных вынікаў гэтыя дзеянні пакуль не прынеслі.

Гэта вельмі непакоіць Аляксандра Лукашэнку. Далучыць Беларусь да Расіі — даўняя мара беларускага прэзідэнта. Яшчэ ў 1995 годзе ён казаў, што Беларусь для яго — гэта „пройденный этап". Але выйсці на больш маштабны „этап" Лукашэнку ніяк не ўдаецца.

У замаруджванні працэсу аб'яднання краін беларускі прэзідэнт абвінавачвае кіраўніцтва Расіі. 7 красавіка падчас выступу перад сваім „парламентам" Лукашэнка заявіў, што спадзяецца на хуткі прыход да ўлады ў Расіі новых сілаў (камуністаў і нацыяналістаў — аўт.), з якімі яму будзе лёгка дамовіцца. Што да думкі беларускага народа пра страту незалежнасці радзімы, дык яна Лукашэнку не цікавіць. Падчас сваіх візітаў у Маскву ён заўсёды сцвярджае, што амаль усе беларусы толькі пра тое і думаюць, як хутчэй зноў жыць у вялікай дзяржаве „от Бреста до Курил". Супраць, па словах Лукашэнкі, толькі невялікая купка людзей. 2 красавіка беларускі прэзідэнт сказаў расійскім журналістам нават дакладны працэнт праціўнікаў аб'яднання:

„Это часть национальной, я бы сказал, националистической, белорусской элиты, не больше. Есть в государственных органах власти небольшая часть людей, которые боятся потерять, как-то потеряться в этом огромном государстве...

Но есть и обманутые пропагандой, которых запугивают. Есть и такие люди. Они есть и среди простого народа. Я имею в виду рабочих, крестьян, пенсионеров. Есть и среди средней интеллигенции. Я имею в виду учителей, врачей и так далее. Но я думаю, что на сегодняшний день, по большому счёту, если честно, просто в средствах массовой информации и другими путями людям рассказать о замыслах, о этом договоре, не пугая людей, не обманывая, не сталкивая их лбами, то это будет примерно до 10%, которые сегодня однозначно категорически против союза Беларуси и России. Это националистически ориентированая часть людей".

Напэўна, такі працэнт нязгодных з аб'яднаннем павінны будуць вывесці арганізатары, планаванага на восень старшынёй Дзярждумы Расіі, камуністам Селязнёвым, рэферэндуму.

У сваёй прапагандысцкай кампаніі інтэгратары адразу пачалі выкарыстоўваць балканскі крызіс.

— Славянам надо прекратить наконец все внутренние распри и объединиться перед лицом опасности, нависшей над всей планетой, обратно объеденив все народы, которые когда-то жили вокруг нас, — кажа Аляксандр Лукашэнка. — Беларусь и Россия обязаны предпринять самые действенные меры, направленные на создание современной, эффективной системы безопасности наших стран. Полноценно гарантировать стабильное развитие двух стран может только новая, не побоюсь этого слова, супердержава — Союз Беларуси и России.

**(зк)**

# Сацыяльная апека

**Арлянская гміна налічвае амаль 4 000 жыхароў, у тым ліку 1 600 у пенсіённым узросце. У двух пачатковых школах вучыцца 295 вучняў. Галоўнымі крыніцамі ўтрымання з'яўляюцца земляробства і пенсіі. Частка насельніцтва апрача прафесійнай працы займаецца на невялікіх гаспадарках, але лік такіх асоб штогод скарачаецца па прычыне недахопу работы. На агульны лік 166 беспрацоўных ажно 155 асоб страціла права на дапамогу па беспрацоўі. Многія з іх вымушаны прасіць падтрымкі ў Гмінным асяродку сацыяльнай дапамогі, якім загадвае Вяслава БЖАНА.**

*— Хто ў асноўным карыстаецца сацыяльнай дапамогай?*

— Атрымоўваюць яе найбольш патрабуючыя. Разумеем, што многія людзі, якія апынуліся ў новай для іх рэчаіснасці пасля страты работы стануць пажыццёвымі беспрацоўнамі, будуць жыць з дня на дзень, бесперспектыўна. Неаднойчы наша дапамога выратоўвае іх ад паталагічных паводзін, дазваляе задаволіць неабходныя патрэбы. У мінулым годзе звярталіся да нас перш за ўсё сем'і беспрацоўных (69), алкаголікаў (58), інвалідаў і хворых (60), бездапаможных (40), якія не ўмеюць справіцца з абавязкамі на гаспадарцы.

*— З якімі праблемамі прыходзіцца вам змагацца?*

— Найбольшы наш клопат — гэта адсутнасць транспарту, што ўскладняе нам сувязь з падапечнымі, і недахоп фінансавых сродкаў. У бліжэйшай будучыні трэба вырашыць справу апекі над старымі нямоглымі людзьмі і процідзейнічаць пашырэнню алкагалізму сярод моладзі.

Цяжка таксама вырашыць праблему беспрацоўя. Найчасцей беспрацоўны траціць работу, затым права на дапамогу і потым нічога не робіць каб адмяніць сваё становішча ды жыве за рысай беднасці, спадзеючыся на нашу падтрымку.

*— Колькі сем'яў пакарысталася вашай дапамогай у мінулым годзе?*

— Рознымі формамі сацыяльнай дапамогі пакарысталася больш 200 сем'яў, у тым ліку 40 сем'ям былі аказаны юрыдычныя парады і дапамога ў афармленні спраў у адміністрацыйных установах. З красавіка мінулага года дапамагаем таксама ветэранам; ад іх паступіла ўжо 26 заяў. У прытулак адправілі мы тры асобы.

*— Які будзе гэты год?*

— Вельмі бедны. Атрымалі мы на 36% менш бюджэтных грошай, чым у мінулым годзе (1998 г. — 177 500 зл., у 1999 г. — 115 000 зл.). Пры дапамозе гэтых грошай не вырашым сацыяльных праблем у гміне. Трэба шукаць дадатковых крыніц фінансавання. Зыходзячы з таго, што ў цяперашняй сітуацыі з году ў год будзе павялічвацца лік людзей, якім трэба будзе аказваць дапамогу, матэрыяльнае становішча многіх сем'яў у Арлянскай гміне будзе штораз горшае.

**Гутарыў Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Распачнецца будова новай школы

У час VI пасяджэння Рады гміны Гайнаўкі, якое адбылося 25 сакавіка г.г., прыняты быў бюджэт на гэты год і канчаткова вырашылася справа будовы новага школьнага будынка ў Дубінах.

Сесія пачалася інфармацыяй пра працу Управы. Яе старшыня і войт гміны Вольга Рыгаровіч паведаміла, што Комплекс аховы здароўя ў Гайнаўцы звярнуўся з просьбай да гмінных уладаў, каб пераняў яны вясковыя асяродкі здароўя і фінансавалі ў 50 працэнтах хуткую дапамогу. Аднак прадстаўнікі аховы здароўя не атрымалі ад гміны станоўчага адказу на сваю просьбу. Яны прымуць удзел у чарговым пасяджэнні Рады, на якім больш дакладна паінфармуюць пра новыя ўмовы фінансавання лекарскіх паслуг і арганізацыйныя змены.

Ужо ў час перадапошняй сесіі радныя прынялі пастанову аб стварэнні гімназіі ў Дубінах і пры нагодзе бюджэтнага галасавання трэба было вырашыць, ці ў гэтым годзе распачнецца будова новага школьнага будынка.

— Раней думалі мы, каб рабіць гімназію ў Навакорніне, але няма там такіх магчымасцей, каб спалучыць яе з падставовай школай. Трэба было б тады вывозіць больш чым сто малодшых вучняў, а Дубіны распаложаны цэнтральна ў адносінах да іншых вёсак гміны, — кажа войт Вольга Рыгаровіч. — Прадбачваем, што ў дубінскай гімназіі будзе вучыцца ў 6 аддзелах больш за 150 вучняў, чаго і патрабавалі ў Кураторыі. Новы школьны будынак патрэбны і для падставовай школы, бо ў дубінскай акрузе многа дзетак, а вучацца яны ў старой драўлянай школе. Інвестыцыя такая патрабуе вялікіх сродкаў і плануем яе на некалькі гадоў. У будучыні спадзяемся на дапамогу Кураторыі, а ў гэтым годзе добра было б распачаць будову і зрабіць прынамсі падмурак.

Іншай справай, якой радныя адвялі больш увагі, былі рамонты дарог.

У час галасавання прынята была пастанова аб выдзяленні сродкаў на будову школы ў Дубінах. Радныя прынялі пастанову аб асфальтаванні дарог Трывежа — Ласінка, Стары-Корнін — Махнатае і ў вёсцы Выгада. Адхілена была прапанова будовы новага клуба ў Навасадах і рамонту ў Навакорніне. У сувязі з дрэннай кан'юнктурай у сельскай гаспадарцы радныя ўжо раней прынялі пастанову аб зніжэнні падаткаў, што панізіць і даход у гмінным бюджэце на 135 тысяч злотых. Дадатковы прыбытак у памеры 160 тыс. зл. прадбачваецца ад продажу зямельных участкаў на ўскраіне Гайнаўкі, якія належаць да вёскі Ліпіны. У канчатковым галасаванні прыняты быў бюджэт з даходам 4 мільёны 334 тысячы злотых і расходам 4 мільёна 620 тысяч злотых, што абазначае частковае крэдытнае фінансаванне. Радныя назначылі таксама дырэктара новай гімназіі ў Дубінах, якім стала цяперашняя дырэктар Падставовай школы ў Арэшкаве Тамара Крайнік.

У канцы сесіі размова пайшла і пра пашырэнне парку на ўсю Белавежскую пушчу. У сувязі з гэтым рашэннем Міністэрства аховы асяроддзя прапануе выдаткаванне каля 20 мільёнаў злотых, з чаго 10 мільёнаў хоча раздзяліць паміж прыпушчанскія гміны. Аднак грошы гэтыя можна будзе выдаткоўваць толькі на інвестыцыі звязаныя з аховай асяроддзя. Размова ішла пра будову каналізацыі ў Дубінах і іншыя інвестыцыі, на якія можна было б выкарыстаць вонкавыя сродкі. Радныя даведаліся таксама, што ад 2000 года можна будзе атрымаць дадатковыя сродкі на будову дарог і асвету — з Еўрапейскага Саюза. Падвялі таксама вынікі працы Рады папярэдняга склікання. За апошнія 4 гады ў гміне асфальтаваных было 25 кіламетраў дарог, закончана была ўва ўсіх вёсках будова водаправодаў, у дзвюх вёсках (Старым Беразове і Махнатым) пабудавалі каналізацыю і правялі рамонты некаторых школ і вясковых клубаў.

**Аляксей МАРОЗ**

# БГТ пасля з'езда

[1 ☞ працяг]

дзе выбраць адну, бо толькі на адну можна здабыць грошы. „Ды і людскі патэнцыял таварыства такі, што добрую канферэнцыю можам сарганізаваць толькі адну", — сказаў уступаючы старшыня БГТ д-р Алег Латышонак. Канферэнцыя будзе спробай вызначыць, у якім месцы апынулася беларуская гістарычная навука і якія мэты павінны паставіць сабе гісторыкі на бліжэйшы час.

Ажыццяўляць складзеныя падчас з'езда прапановы і кіраваць працай Беларускага гістарычнага таварыства будзе новая ўправа: Яўген Мірановіч, Вячаслаў Харужы, Славамір Іванюк і Малгажата Мароз. Кантраляваць іх будзе рэвізійная камісія: Мажэна Лідкэ, Дарафей Фіёнік і Яўген Янчук. Старшынёю быў зноў абраны Алег Латышонак.

На канец з'езда яго ўдзельнікі адобрылі прапанову пісьма да ўсіх беларускіх арганізацый Беласточчыны з просьбай вяртацца да гістарычнай граматыкі беларускай мовы, складзенай Браніславам Тарашкевічам. Рэформа 1933 года шмат у чым сказіла беларускую мову. Ніколі не прыняла яе беларуская дыяспара і сёння адкідаюць яе ўсе незалежна думаючыя інтэлектуальныя колы ў Беларусі. Выбар граматыкі гэта не толькі спроба адраджэння беларускай мовы, але і слова за або супраць незалежнасці Беларусі. І таму трэба даць маральную падтрымку „тарашкевіцы".

**Мікола ВАЎРАНЮК**




# Помнік д-ру Чарнецкаму

Беларускае гістарычнае таварыства звяртаецца з просьбай аказаць фінансавую дапамогу ў пабудове намагільнага помніка беларускаму нацыянальнаму дзеячу д-ру Міколу Чарнецкаму на праваслаўных могілках у Беластоку-Выгодзе.

Асвячэнне помніка плануецца ў сотую гадавіну з дня нараджэння героя, у канцы мая бягучага года.

Мікола Чарнецкі нарадзіўся 22 мая 1899 г. у вёсцы Малыя Азяраны каля Крынак. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Карлавым універсітэце ў Празе. З той пары актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальны рух. Быў блізкім сябрам паэта Уладзіміра Жылкі, супрацоўнікам Тамаша Грыба, настаўнікам беларускай мовы ў беларускай гімназіі ў Клецку. У пачатку 1944 г. быў забіты польскім падполлем непадалёк Беластока.

Грашовыя ахвяраванні можна пералічваць на рахунак:

**Białoruskie Towarzystwo Historyczne**
**PBK, S.A. w Warszawie I/O Białystok**
**11101154-210988-2700-1-61, „Pomnik".**

# Адозва

Беларускае Гістарычнае Таварыства зьвяртаецца да ўсіх беларускіх арганізацыяў на Беласточчыне прыняць для штодзённага карыстаньня ва ўсялякай пісьмовай практыцы правапіс граматыкі Браніслава Тарашкевіча.

Савецкі правапіс, якім найчасьцей карыстаемся, быў уведзены ў 1933 г. дзеля русыфікацыі беларусаў. Большасьць эміграцыйных беларускіх асяродзьдзяў, а таксама дэмакратычна і нацыянальна зарыентаваных колаў інтэлігенцыі ў Рэспубліцы Беларусь творчую пісьмовую дзейнасьць публікуюць паводле правапісу Тарашкевіча.

Наш выбар гэтага правапісу быў-бы далучэньнем да тых беларускіх плыняў, якія выступаюць за захаваньне культурнае тоеснасьці нашага народу.

*Другі Зьезд*
*Беларускага Гістарычнага Таварыства*
*Беласток 31.03.1999 г.*

# Сустрэча з жыхарамі Гайнаўкі

25 сакавіка г.г. у Гайнаўцы адбылося спатканне жыхароў з ваяводам Крыстынай Лукашук. Прысутны былі таксама староста Гайнаўскага павета Уладзімір Пятрочук і бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк.

Амаль усё спатканне звялося да пытанняў гайнаўян, якіх турбуюць актуальныя праблемы Гайнаўшчыны. Жыхароў хвалявала справа пашырэння нацыянальнага парку на ўсю Белавежскую пушчу, фінансавання экалагічных інвестыцый і развіцця турызму. Гайнаўяне даведаліся, што за пашырэннем парку ў будучым пойдзе дафінансаванне гмінаў, але сёлета абмяжуюцца датацыі на пабудову каналізацыі. Толькі пасля 2000 года можна будзе спадзявацца на сродкі Еўрапейскага Саюза. Пытанні тычыліся таксама стварэння ў Гайнаўцы казначэйскага аддзела. Высветлілася, што такія шансы ёсць, паколькі бельскі казначэйскі аддзел, якога 45% кліентаў гэта жыхары Гайнаўшчыны не зможа своечасова абслужыць падаткаплацельшчыкаў. Ваявода Крыстына Лукашук інфармавала пра кампетэнцыі сельскагаспадарчых палат, якія толькі нядаўна ўзніклі ў былым Беластоцкім ваяводстве і заклікала рыхтаваць стратэгіі развіцця сваіх гарадоў і вёсак, каб можна было выкарыстаць сродкі „Агенды 2000", якія падрыхтаваў Еўрапейскі Саюз.

Вельмі важная справа, якая ставілася ў час сустрэчы гэта транспарт праз горад небяспечных матэрыялаў. Праз пераход у Семяноўцы ў Гайнаўку перапраўляецца 90% усіх небяспечных хімікатаў з усходу. Ваявода суцяшала, што ўзмацніўся кантроль за транспартам небяспечных рэчываў, але не абяцала яго спынення. Пры канцы спаткання ваявода Крыстына Лукашук паінфармавала пра планы супрацоўніцтва Падляшскага ваяводства з Беларуссю і Літвою ў рамках Еўрарэгіёна „Нёман".

Амаль усе пытанні аб фінансавай дапамозе Гайнаўшчыне, засталіся без канкрэтнага адказу, а ваявода найчасцей адсылала аўтараў пытанняў да ўрада і ваяводскага самаўрада. **(ам-з)**

# Старажытная Сербія і Косава

Сербская дзяржаўнасць узнікла ў IX стагоддзі. Дарэчы, цяжка гаварыць пра адну сербскую дзяржаву таму, што на тэрыторыі, якую займалі сербскія плямёны, дзесяткамі гадоў рабіліся спробы стварыць адну прастору, кантраляваную адным палітычным цэнтрам. Сербы ў пачатках IX стагоддзя займалі краіну званую Загор'ем, у складзе якой знаходзілася сучасная паўднёвая Сербія, Боснія, Герцагавіна, а таксама усходняя Далмацыя, Чарнагорыя і Рашка. Гэтая апошняя правінцыя называлася таксама Старой Сербіяй, а сёння яе паўднёвая частка вядомая як Косава.

Большасць славянскіх плямёнаў, якія знаходзіліся на тэрыторыі Далмацыі і Загор'я ў сапраўднасці не былі сербамі, але так іх усіх называлі ў суседніх краінах. Сучасных сербаў тысячу гадоў таму называлі рацамі, ад Рашкі, першага на яе тэрыторыі адміністрацыйна-рэлігійнага цэнтра — горада Рас. Раней за рацаў на далмацінскім прымор'і былі славянскія нарэтляны, загумляны, травуніяны, дукланы і сербы. На пачатку IX стагоддзя стварылі яны племянны саюз, які ў сярэднявечных дакументах называецца Сербіяй. Саюз гэты вельмі хутка распаўся на малыя княствы, але супольная назва для ўсіх паўднёва-ўсходніх славян асталася.

У палове IX стагоддзя адзін з загорскіх князёў Властымір аб'яднаў большасць сербскіх княстваў і стварыў дзяржаву, якая паспяхова абаранялася ад агрэсіі турскіх балгараў. Большасць тэрыторыі сучаснай Сербіі знаходзілася тады ў межах Балгарыі. Саюзнікамі сербаў у вайне з балгарамі і Візантыяй былі славянскія харваты. У 870 г. сын Властыміра, Мутымір, разбіў армію балгарскага цара Барыса Міхаіла, што прывяло Сербію да ролі важнага палітычнага фактара ў гэтым кутку Еўропы. Пры канцы X стагоддзя Загор'е, аднак, апынулася ў залежнасці ад балгарскіх цароў. Цэнтрам сербскага палітычнага жыцця стала тады Рашка і Травунія (Чарнагорыя). На пачатку XI стагоддзя імператар Візантыі Васіль II знішчыў мілітарную сілу балгараў, што паспрыяла ўзмацненню сербскай Рашкі. З Рашкі (Косава) пачалася сярэднявечная магутнасць Сербіі. Пры канцы XII стагоддзя князі Рашкі валодалі Загор'ем і Далмацыяй. Сербы пачалі тады змагацца з Візантыяй і Венецыяй за панаванне на Балканах. Іх традыцыйных саюзнікаў — харватаў падпарадкавалі сабе ў той час венгры. Харваты да часу стварэння ў XX стагоддзі Югаславіі безупынна былі пад венгерскім, а пасля аўстрыйскім панаваннем.

Першым хрысціянскім сербскім князем быў Мутымір, які прыняў новае веравызнанне ў 855 г. ад харватаў. На сербскай зямлі ад IX стагоддзя ішло змаганне паміж лацінскімі і грэчаскімі місіянерамі. Загор'е і Далмацыя схіляліся да лацінскай культуры, Рашка — да грэчаскай. Палітычная дамінацыя Рашкі ў XIII стагоддзі прывяла да перамогі ўсходняга, візантыйскага хрысціянства на сербскай зямлі. Змаганне з прыхільнікамі заходняга хрысціянства паспрыяла палагоджанню адносін уладароў Рашкі з Візантыяй і Балгарыяй. Са згоды патрыярха Канстанцінопаля, брата князя Рашкі Сцяпана, афонскі манах Сава ў 1218 г. стаў першым сербскім архіепіскапам. Сцяпан прыняў званне сербскага караля.

Рашка (Косава) акрэсліла рэлігійны і культурны характар Сербіі. Тут узніклі манастыры, якія паўплывалі на фарміраванне сербскай ідэалогіі, вялікія помнікі сербскага мастацтва і пісьменства.

У першай палове XIV стагоддзя сербы ў выніку пераможных войнаў з Візантыяй і Балгарыяй занялі Македонію. Падчас панавання Сцяпана Душана Сербія стала магутнай дзяржавай не толькі палітычна, але таксама гаспадарча. У 1346 г. Душан прыняў званне імператара і выдаў новы закон, які парадкаваў палітычную сістэму паводле еўрапейскіх феадальных узораў. На практыцы аднак пасля смерці Душана, хаця яго сын меў імператарскае званне, Сербія рассыпалася на шмат княстваў. У тым часе ў Еўропе з'явілася турэцкая армія, якая перамагла сілы Візантыі і Балгарыі і ў 1386 годзе ўвайшла на сербскую зямлю. Імператару Лазару Грэбелянавічу ўдалося стварыць шырокую кааліцыю сербска-баснійскіх князёў і з вялікай арміяй сустрэць туркаў у 1389 г. каля Прышціны, на тэрыторыі правінцыі Косавага Поля. Гістарычная літаратура прадстаўляе гэтую бітву як вялікую перамогу туркаў. У сапраўднасці ніводная армія не зышла з поля разбітай. Загінулі толькі галоўнакамандуючыя абодвух бакоў — імператар Лазар і султан Мурад. Пакольці, аднак, смерць султана не выклікала ніякіх паслядоўнасцей на турэцкім баку, кааліцыя, якую стварыў Лазар, проста рассыпалася. Сербія на некалькі гадоў стала васалам Турцыі.

У 1411 г. сын Лазара, князь Сцяпан, нанава аб'яднаў большасць сербскіх земляў і амаль дваццаць гадоў даваў адпор туркам. Рашка (Косава) стала тады правінцыяй, якая была варотамі туркам на сербскую зямлю. Таму там найраней замацаваліся ісламскія ўплывы, а цэнтр сербскага палітычнага жыцця пачаў перасоўвацца на поўнач, над Дунай. У 1455 г. туркі пасля саракадзённай блакады ўварваліся за муры крэпасці Нова Брдо. Гэта стала пачаткам шматвяковай акупацыі Сербіі, паўстанняў і крывавых пацыфікацый сербскіх бунтаў туркамі. Не было аднак такога стагоддзя, калі б сербы не прабавалі вызваліцца з турэцкай няволі. У чарнагорскіх горах улада туркаў была хутчэй сімвалічнай. У XVIII стагоддзі на ўсходзе Еўропы вырасла Расійская імперыя, якой стратэгічныя інтарэсы поўнасцю супярэчылі турэцкім. Расія стала натуральным саюзнікам сербаў, грэкаў і балгараў. Праваслаўнае веравызнанне стала тым дадатковым элементам, які замацоўваў супольнасць Расіі і балканскіх народаў.

У Старой Сербіі і Косаве (раней Рашцы) этнічныя змены наступілі яшчэ пры канцы XVII стагоддзя. У 1689 г. аўстрыйская армія, якая стрымала наступленне туркаў на поўначы Дуная, сама ўвайшла на тэрыторыю Балканаў, у тым і на сербскую зямлю. Змена палітычнай сітуацыі заахвоціла сербаў да паўстання супраць турэцкага панавання. Маральную падтрымку паўстанцам даў сербскі патрыярх Арсеній III. Неўзабаве супраць сербаў туркі паслалі вялікую армію, якая ў Косаве знішчыла амаль усіх сербаў, якія не ўцяклі на поўнач у Бялград. У кастрычніку 1690 г. туркі занялі таксама крэпасць Ніш, якая адкрывала дарогу на Бялград, што выклікала чарговую хвалю сербскай эміграцыі на поўнач, на тэрыторыю венгерскай Ваяводзіны, якую з часам здамінавалі славяне. Тым часам на тэрыторыі апусцелага Косава і Старой Сербіі (сёння палова Старой Сербіі знаходзіцца ў межах Косава) туркі насялялі мусульманскія плямёны албанцаў.

У XIX стагоддзі ў выніку крывавых паўстанняў супраць туркаў сербы пастаянна пашыралі свабодную ад чужога панавання прастору. Пры канцы стагоддзя ў сербаў з'явіўся новы вораг — Аўстра-Венгрыя, якая імкнулася турэцкія ўплывы на Балканах замяніць габсбургскімі. Расія традыцыйна падтрымоўвала сербаў. У 1913 г., у выніку г.зв. другой балканскай вайны Косава нанава апынулася ў межах Сербіі. У жніўні 1914 г. Аўстра-Венгрыя, нападаючы на Сербію, дала пачатак першай сусветнай вайне. Албанцы з Косава выступілі тады на баку немцаў. Падчас II сусветнай вайны італьянскі дыктатар Беніта Мусаліні далучыў гэту правінцыю да г.зв. Вялікай Албаніі, што выклікала вялікую хвалю этнічных чыстак, у якіх ахвярамі сталі перш за ўсё сербы.

Сёння ў час новага падзелу зонаў уплыву ў свеце, трыста гадоў пасля першых этнічных зменаў на тэрыторыі Косава, нехта цынічна выкарыстоўвае гістарычны канфлікт паміж сербамі і албанцамі. У Рашцы-Косаве скрыжаваліся інтарэсы вялікіх мафіяў сучаснага свету. Найменш вінаватыя людзі — сербы і албанцы — плацяць і доўга яшчэ плаціць будуць рахункі за чужыя махлярствы. Крайне дэмагагічная, крывадушная, цынічная і хлуслівая прапаганда не дазваляе нават зарыентавацца, дзеля якіх мэтаў выкліканы новы пажар у Еўропе.

**Яўген Міранович**

# Хто грэецца каля Косаўскага вогнішча

Пра пачатак бамбардзіровак Югаславіі я даведаўся падчас пяцігадзіннага прастою на польска-беларускай мяжы. Пакуль пасажыры аўтобуса Варшава — Мінск чакалі, калі беларускія мытнікі кінуць абмеркаванне нейкіх сваіх спраў і ўрэшце возьмуцца за працу, вадзіцель наставіў радыё на адну з польскіх праграм. Дыктар праз кожныя паўгадзіны паведамляў пра вылеты самалётаў НАТО, пра тое, што бомбы і ракеты ўжо падаюць у ваколіцах Прышціны і Бялграда.



„Няўжо нельга было спыніць этнічныя чысткі ў Косаве іншым шляхам?" — падумалася мне.

Гэта ж пытанне задавалі амаль усе людзі, з якімі я, ужо ў Гродне, размаўляў на тэму падзей у Югаславіі. Беларусы, як ніхто іншы, разумеюць трагедыю сербаў, бо ў нас ёсць свой „Мілошавіч". Мае суразмоўцы казалі, што бамбардзіроўкі Югаславіі скарыстаюць для сваіх прапагандысцкіх мэт камуна-фашысты ў Расіі і каманда Лукашэнкі ў Беларусі.

Расійскае тэлебачанне кожны дзень перадае рэпартажы з Бялграда, дзе на вуліцах тысячы сербаў пратэстуюць супраць НАТО. Мілошавіч адразу ўзмацніў свае пазіцыі. Нават яго нядаўнія праціўнікі сталі падтрымліваць дыктатара. У Маскве пачалася антызаходняя істэрыка. Камуністы і фашысты лікуюць. Ельцын загаварыў так, як хочуць яны.

На Беларусі дзяржаўная прапаганда пачала даказваць, што Лукашэнка меў рацыю, калі пасварыўся з Захадам. А апазіцыя — гэта агенты НАТО, якія хочуць, каб амерыканцы пачалі бамбіць Беларусь.

— Если они сунутся сюда... Это не Югославия. Тут они получат на всю катушку, — супакойвае свой народ Аляксандр Лукашэнка. Яму бамбардзіроўкі Югаславіі сталі сапраўдным падарункам лёсу. Замест хлеба людзям можна прапанаваць падрыхтоўку да вайны. А ад бруду, які выліты на апазіцыю пасля 24 сакавіка, за быццам бы жаданне зрабіць з Беларусі другое Косава, яе лідэры доўга не адмыюцца.

А яны зусім не вітаюць дзеянні НАТО ў Югаславіі. Вось як пракаментавалі сваё бачанне падзей на Балканах некаторыя вядомыя беларускія палітыкі.

**Станіслаў Шушкевіч**, былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады:

— Да бамбардзіровак Югаславіі стаўлюся адмоўна. Так нельга было рабіць. Але вялікую долю адказнасці я ўскладваю на Расію. Палітыкі гэтай краіны ўвесь час абяцалі падтрымку злачыннаму рэжыму Мілошавіча. Ён ніколі не адмовіўся ад мірных перамоў, калі б не спадзяваўся на дапамогу Расіі.

Аднак гэта не апраўдвае дзеянні Захаду. Трэба было шукаць шляхі выхаду з крызісу праз ААН, як прынята ў свеце з часоў заканчэння другой сусветнай вайны. А так бамбардзіроўкі Югаславіі выглядаюць як суд Лінча.

**Сямён Шарэцкі**, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі:

— Вельмі дрэнна. Гэта не тое, што можна апраўдаць. Вядома, Мілошавіч вінаваты. Ён распачаў вайну супраць албанцаў задоўга да пачатку бамбардзіровак. Затым не падпісаў дамову ў Францыі. Але бамбіць не трэба. Неабходна іншае выйсце.

Для Беларусі лепш, каб крыві, якая зараз льецца ў цэнтры Еўропы, не было. Мы добра памятаем вайну і не хочам, каб нас зноў выкарыстоўвалі ў чужых інтарэсах.

Мяне абурыла выказванне міністра абароны Расіі, пра магчымае вяртанне на Беларусь ядзернай зброі. Ён, што, лічыць Беларусь сваім агародам!? Я ўпэўнены, наш народ гэтага не дапусціць.

**Юры Хадыка**, намеснік старшыні Беларускага народнага фронту:

— У мяне да бамбардзіровак Югаславіі стаўленне дваістае. Вельмі дрэнна, што гінуць людзі. Вайна — гэта трагедыя. Лепш, каб быў мір. Але бывае, што прыходзіцца выбіраць паміж дрэнным і больш дрэнным.

Закрываць вочы на дыктатарскія дзеянні Мілошавіча, на знішчэнне албанскай аўтаноміі ў Косава нельга.

Падзеі непасрэдна тычацца Беларусі. Упершыню НАТО вядзе ваенныя дзеянні па-за сваімі межамі. Гэта азначае, што пакладзены канец падзелу Еўропы на сферы ўплыву, закладзенаму паўстагоддзя назад у Патсдаме. Зараз ні адзін дыктатар не можа беспакарана праводзіць генацыд насельніцтва, этнічныя чысткі і г.д. НАТО наш сусед. Антызаходнія пагрозы, якімі ў апошнія дні раскідваецца Лукашэнка, нясуць небяспеку. Калі ў Беларусь на самай справе будуць уведзены расійскія ядзерныя ракеты, гэта дабром не скончыцца.

**Зміцер Кісель**

**Набор у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі**

# І радасць, і слёзы...

Што б не гаварылі пра паступленне выпускнікоў беларускіх ліцэяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі, сёлета ніхто не скажа, што не было селекцыі. 30 сакавіка ў будынку ГП БГКТ, дзе адбываўся набор студэнтаў, на 40 вучняў, ахвотных вучыцца далей на Беларусі, было прынята толькі 32 асобы. Так што была і радасць, былі і слёзы.

Спачатку **для ўсіх** (без выключэння, таксама для выпускнікоў польскіх ліцэяў) была дыктоўка па беларускай мове, а пасля праводзіліся тэставыя экзамены па галоўных прадметах з выбранага кандыдатамі напрамка вучобы. Калі хтосьці паступаў, напрыклад, у медыцынскі інстытут, дык тэсты былі з галіны біялогіі і хіміі, хто ішоў на тэхнічны напрамак, павінен быў даць правільныя адказы ў тэстах па матэматыцы, а для тых, што выбралі замежныя мовы, быў экзамен па англійскай ці нямецкай мове.

Браніслаў Дашкевіч, начальнік аддзела вышэйшай адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, быў старшынёю камісіі, якая праводзіла набор студэнтаў. Членамі камісіі былі таксама Генадзь Пяцігор з Міністэрства адукацыі РБ і Юры Хейдараў з Міністэрства аховы здароўя РБ.

Мы хочам, сказаў Браніслаў Дашкевіч, які ўжо шосты раз робіць у нас набор студэнтаў, дапамагчы беларусам у Польшчы атрымаць адукацыю. Дзеці хочуць вучыцца, атрымаць веды. Мы шмат зрабілі, каб аблегчыць ім старт у жыццё. Тэсты, якія былі падрыхтаваны на беларускай ці рускай мове, мы пераклалі на польскую мову, каб вучням было лягчэй. Хаця я задаволены ведамі вучняў з беларускіх ліцэяў (многія атрымалі чацвёркі і пяцёркі), некаторыя, на жаль, не змаглі дастаткова паказаць свае веды з прычыны слабой падрыхтоўкі беларускай мовы.

Дзевяць гадоў таму між Урадам Беларусі і Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы быў падпісаны дагавор аб навучанні выпускнікоў беларускіх ліцэяў (беларусаў і палякаў), а таксама беларусаў з польскіх ліцэяў у вышэйшых навучальных установах Беларусі. Сёлета гэта ўжо, такім чынам, дзевяты набор навучэнцаў у восем вузаў Беларусі. Здавалі экзамены не толькі вучні Бельскага і Гайнаўскага беларускіх ліцэяў, але і трое вучняў-беларусаў з польскіх ліцэяў: адна асоба з Беластока і дзве — з Бельска-Падляшскага.

Пасля экзаменаў па будынку Беларускага таварыства хадзіла ўсхваляваная моладзь, сядзелі і стаялі прыехаўшыя з імі бацькі і настаўнікі. Усе чакалі вынікаў, непакоіліся. Некаторым аднак здавалася, што экзамен будзе чыстай фармальнасцю, і яны былі спакайнейшыя. Так ім здавалася, але камісія была патрабавальная.

Такім чынам, уступны экзамен у Беларускі дзяржаўны універсітэт здалі 3 асобы, у Беларускую дзяржаўную палітэхнічную акадэмію — 1 асоба, ва Універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі — 2 асобы, у Педагагічны універсітэт — 1 асоба, у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт — 7 асоб, у Медыцынкі інстытут — 6 асоб (тры асобы — у Мінскі, 3 асобы — у Гродзенскі), і ў Гродзенскі універсітэт — 12 асоб.

Што датычыцца выбраных напрамкаў вучобы ва універсітэтах, дык вучні выбіралі сапраўды цікавыя напрамкі: міжнародныя адносіны, журналістыку, музыкалогію, замежныя мовы і інш. Маем надзею, што іх мары наконт будучай вучобы і працы споўняцца.

Пытаюся ў дырэктара Бельскага беларускага ліцэя Зінаіды Навіцкай, ці праўда, што вучні выбіраюцца на далейшую навуку ў навучальныя ўстановы Беларусі, паколькі проста туды значна лягчэй паступіць. Ну, скажам, на медыцыну, вядома лягчэй, адказвае мне дырэктар Навіцкая. У некаторых таксама там ёсць радня, а ў іншага ўжо старэйшая сястра вучыцца. Цяжка быць далёка ад мамы... Усё ж трэба мець адвагу, каб ад'ехаць на вучобу далёка ад дому.

Цешацца настаўнікі, што так шмат іх вучняў здалі экзамены ў беларускія вузы. Апрача дырэктар Зінаіды Навіцкай, ёсць і настаўніцы Бельскага ліцэя: Вера Сідовіч (хімія), Анна Ткачук (матэматыка), Анна Бжазоўская (беларуская мова). Ёсць тут таксама дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Яўген Сачко і настаўнік фізікі Аляксандр Лаўрыновіч, настаўніца беларускай мовы Вольга Сянкевіч.

Радасцю свецяцца вочы бацькоў, дзеці якіх стануць неўзабаве студэнтамі беларускіх вышэйшых школ. Цешыцца Уладзіслаў Завадскі з Гайнаўкі, наш карэспандэнт, здымкі якога часта паяўляюцца на старонках „Нівы". Яго дачка Аня будзе вывучаць нямецкую мову ў Гродзенскім універсітэце. Гэта было яе марай.

А Валянціна Кастэцкая, медсястра з Бельска, не можа ніяк супакоіцца ад хвалявання і ўсё паўтарае: „Як жа ўцешыцца муж!" Яе сын, Аркадзь Кастэцкі, здаў экзамен у Мінскі лінгвістычны універсітэт, дзе будзе вывучаць англійскую мову.

Ведаеце, сказала яна, як цяжка ў нас паступіць на англістыку. Мой муж таксама марыў, каб сыну ўдалося. Яму ў жыцці не пашанцавала, дык каб хаця сынам... Ведаеце, муж вучыўся ў Гданьскай акадэміі фізічнага выхавання і ў часе трэніроўкі меў выпадак. І вось ужо ён дзесяць гадоў ездзіць на калясцы. Але грамадскай працы не цураецца: ён жа прэзас Бельскага таварыства „Шанц" для непаўнаспраўных. Як ён марыў, як марыў, каб сынам было лепш! Бо ў нас і малодшы сын Лукаш таксама ў беларускім ліцэі вучыцца, гаворыць яна і яе шчасце перадаецца мне.

Добра ўсё ж, што нехта задбаў пра тое, каб дзецям беларусаў у Польшчы было хоць трошкі лягчэй, ды каб больш з іх магло выйсці ў людзі ў нялёгкія для навукі часы.

**Ада Чачуга**

# Чэхію задзівілі дамаганні польскіх назваў

[**1** ☞ *працяг*]

якой будуць вызначацца гарады і гміны, у якіх павінны ўзнікнуць двухмоўныя надпісы.

— Выводзімся з тэрыторыі, якую традыцыйна насялялі палякі. У працэнтах цяжка гэта вызначыць, бо за апошнія гады ў розных месцах узніклі кварталы, якія прапорцыю гэтую вывярнулі, — заявіў Ваўжынец Фойцік, старшыня Рады Кангрэса палякаў.

Сярод прадстаўнікоў польскай нацыянальнай меншасці няма адзінства поглядаў наконт двухмоўных надпісаў.

— Я палячка, палякі заўсёды тут жылі, таму думаю, што двухмоўныя надпісы нам належацца, — сказала Анна Пітрава з Гнойніка.

— Мне здаецца, што гэта непатрэбнае цкаванне людзей. Цікава мне таксама, каго так папраўдзе Кангрэс палякаў прадстаўляе, — не пагадзіўся Станіслаў Гэчка з Быстшыцы над Ольшай.

**Што думаюць чытачы „Mladá Fronta Dnes"?**

— Гэта ганьба чэшскай дэмакратыі, што да гэтай пары ў Цешынскай Сілезіі няма назваў гмін, гарадоў і дзяржаўных устаноў на абедзвюх мовах (Ваўжынец Фойцік, старшыня Рады Кангрэса палякаў у Чэшскай Рэспубліцы).

— Мая маці была палячкай, але мы самі нічога такога не дамагаліся б. Выглядае мне гэта на ксенафобію і распальванне нацыяналізму (Ева Шмудлява, Острава).

— Чэхі дыскрымінуюць нас як палякаў. Нашы дзеці ў чэшскіх школах выхоўваюцца супраць палякаў (польская настаўніца з польскай школы ў Гнойніку, не хацела назваць прозвішча).

— Я жыла ў Цешынскай Сілезіі васемнаццаць гадоў і вельмі задаволена, што адтуль выбралася. Я адчувала пагрозу, у 1938 годзе палякі пабілі нам шыбы. Гэта шавіністы (чэшская настаўніца, не хацела назваць прозвішча).

— Двухмоўнымі назвамі хочам адзначыць, што мы тут жывем. Пра нішто іншае нам не ідзе і ніколі не ішло (Веслаў Пшэчак, Чэскі-Цешын).

— Не разумею, чаму палякі мелі б у нас так распараджацца (Рэната Каталява, Острава).

— Гэта выказванні людзей, якія б'юць цыганоў (прадстаўнік урада па пытаннях аховы правоў чалавека).

— Мой муж паляк, я люблю ездзіць у Польшчу. Замест двухмоўных назваў хацелася б мне шырэйшага прыгранічнага супрацоўніцтва, якое прыпаднесла б наш рэгіён (Яна Оплеталява, Тршынец).

— Катэгарычна не пагаджаюся з двухмоўнымі назвамі. Тое, што адваявалі чэхаславацкія легіёны належыць чэхам, а не палякам (Гергард Габрыак, Гавіржаў).

**Старшыня Рады Кангрэса палякаў Ваўжынец Фойцік:** ***Гэта ганьба чэшскай дэмакратыі***

**ТЭРЛІЦКА**. Факт, што ў паўночнай Маравіі і на Сілезіі ўсё яшчэ няма назваў гарадоў ды дзяржаўных устаноў на польскай мове старшыня Рады Кангрэса палякаў у Чэшскай Рэспубліцы Ваўжынец Фойцік лічыць ганьбай чэшскай дэмакратыі.

— Узровень дэмакратыі пазнаецца паводле ступені аховы нацыянальных меншасцей, — заяўляе В. Фойцік. — Я разумею адмоўны гістарычны досвед чэхаў восенню 1938 года. Гэты час аднак ужо прамінуў.

***— Вы здзіўлены адмоўным стаўленнем многіх людзей?***

— У мяне сваё перажытае, што-нішто я ўжо дасведчыў на сваёй шкуры. Я працаваў старастам у Тэрліцку, на гміннай установе мы павесілі двухмоўныя надпісы. Ніхто гэтаму не працівіўся, пакуль у справу не ўмяшаліся масмеды. Затым я пачаў атрымліваць ананімкі з пагрозамі.

***— Некаторыя палякі ў Чэшскай Рэспубліцы не пагаджаюцца, што Кангрэс палякаў — іхні прадстаўнік. Ёсць у вас паўнамоцтвы на дзейнасць?***

— Ужо некалькі гадоў намагаемся стварыць свой самаўрад. Афіцыйным прадстаўніком не з'яўляемся, бо дзейнічаем на прынцыпах грамадскага згуртавання.

***— Ці ў такой сітуацыі Кангрэс палякаў будзе адстойваць двухмоўныя назвы?***

— Так. Гэта пастанова, якую, як Рада Кангрэса палякаў, будзем выконваць.

***— У якой ступені двухмоўнасць для вас — справа прынцыпу?***

— Гэта не найважнейшы наш пункт. Прыярытэтнымі справамі для нас — польскае школьніцтва і польскае прадстаўніцтва ў дзяржаўных органах выканаўчай улады. Двухмоўныя назвы ўспрымаем як сімвал або жэст добрай волі з чэшскага боку, які вельмі важны нам.

***— Які быў бы абсяг двухмоўя?***

— Не хочам ставіць празмерных патрабаванняў. Хацелася б нам пазначыць найважнейшыя дзяржаўныя ўстановы ды паставіць таблічы пры ўездзе ў гарады і вёскі. Я такое бачыў у паўночнай Італіі — вельмі мне гэта спадабалася.

***— Намеснік старшыні Рады Кангрэса палякаў Браніслаў Валіцкі сцвердзіў, што польскую нацыянальную меншасць у Чэхаславакіі сілком асімілявалі. Вы з гэтым згодны?***

— Нядобраахвотная асіміляцыя была тут у мінулым ды праводзіцца сёння. Пры камунізме мы мелі ўсяго адно згуртаванне, нельга было ствараць новыя. Шкоднай была таксама ліквідацыя шматлікіх польскіх вясковых школ у сямідзесятыя гады.

***— А сёння?***

— Таксама. У многіх установах двухмоўнасць знікла, што я ўспрымаю як форму псіхалагічнага ціску.

*З чэшскай пераклала*
*Галіна Максімюк*

# Угодкі БНР у Сопаце

Чарговыя ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі гданьскія беларусы святкавалі 28 сакавіка ў Сопаце па вуліцы М. Кюры-Складоўскай 10/12 у новым памяшканні БКТ „Хатка". З усіх куткоў Трыграда і Прушча-Гданьскага прыбыло на ўрачыстасць каля дваццаці асоб. Пры супольным круглым стале за шклянкай гарбаты сабраныя выслухалі ўражанні Уладзіміра Міхневіча і Лены Глагоўскай ад святкавання 81 гадавіны Абвяшчэння Незалежнасці Беларусі ў Празе. У сталіцы Чэхіі святкавалі беларусы з сярэдняй і заходняй Еўропы. Святкаванне ў Празе памаленьку ўваходзіць ужо ў традыцыю.

Гданьскія ўлады не маглі гадамі забяспечыць нас тут якой-небудзь кватэрай, затое ўлады Сопата далі нам магчымасць спатыкацца раз у тыдзень у гарадскім памяшканні, у якім сустракаюцца члены розных таварыстваў. Добра, што хоць у такой форме маем забяспечаны свой куток. **(мк)**

# Шукаю кнігу

Калісьці знаёмы з Грэдалёў гаварыў мне, што пакойны ўжо бельскі надлясьнічы Федарук меў цікавую кніжку па гісторыі вёсак Гайнаўшчыны і Бельшчыны і што ў ёй згадвалася мая родная вёска Кузава. Не ведаў ён яе загалоўка, а мае спробы ўстанавіць назву гэтага выдання аказаліся безвыніковымі. Існаванне такой кніжкі пацвердзіў Ян Малмышка — ляснік з Кляшчэляў, які сам яе чытаў. Гаварыў ён, што Кузава калісьці называлася Бабінічамі. Паводле яго, гэтую кніжку надлясьнічы Федарук некаму пазычыў і яна прапала.

Звяртаюся з просьбай да нашых краязнаўцаў падказаць мне, як магла называцца гэтая кніжка, а таксама ў якіх іншых выданнях пішацца пра нашае мінулае.

**Уладзімір Сідарук**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


# Любяць чытаць і дэкламаваць



*Вучні IV класа.*

У Падставовай школе ў Дубічах-Царкоўных найбольш вучняў у IV класе. Сярод 16 дзетак 11 вучыцца беларускай мове.

У час сустрэчы вучні паведамілі, што любяць чытаць „Зорку”, асабліва цікавыя расказы. На занятках па беларускай мове многа чытаюць казак, вершаў і апавяданняў. Ахвотна займаюцца рознымі гульнямі, ходзяць на экскурсіі ў лес. Нядаўна ездзілі на экскурсію ў Орлю.

У IV класе многа дэкламатараў. У школьным дэкламатарскім конкурсе „Роднае слова” прымалі ўдзел Бася Трафімюк, Марыёля Гаеўская, Аня Баравік, Магда Рыбак і Чарак Бадавец. Бася Трафімюк за верш Валянціна Лукшы „Заяц і курапатка” атрымала вылучэнне на раённых спаборніцтвах.

Настаўніца беларускай мовы Галіна Трашчотка гаворыць, што вучні ахвотна вучацца роднай мове і таму ў класе многа выдатнікаў, а сярод іх найлепшыя Аня Баравік, Бася Трафімюк і Магда Рыбак. Вучні ўспаміналі таксама заняткі ў Гуртку жывога слова і выезд на Агляд беларускіх школьных тэатраў, якія праходзіў у Кляшчэлях. Выступалі там вядомыя дэкламатары Магда Рыбак, Аня Баравік і Бася Трафімюк.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

## Пралеска

На сонечным узлеску
Апошні снег растаў.
Вясёлыя пралескі
Зірнулі з-пад куста.
Празрыста ззяюць вочы,
Нібы блакіт нябёс.
Халоднай весняй ноччу
Іх не кране мароз.
Пралескі на пагорку
Пад леташняй травой
Зіхочуць, быццам зоркі,
Агністай сінявой.

**Мікола Хведаровіч**

## Мой сад

Люблю мой сад, як расцвітае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цвет галінку прыгібае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.

Люблю мой сад у маёвым ранку,
Як тоне ён у расістай мгле,
Як ліпа шэпчацца пры ганку,
І як зязюлька „ку-ку” шле.

**Цётка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Д | У | Д | Trzepak | Kawa | Р | Ratunek | Я | О |
| М | Smok<br>Cud | Tkacz<br>Trąba | Т | К | А | Ц | Jad | Poła |
| О | Strata<br>Ażur | Т | Р | А | Т | А | | |
| К | С | Р | А | В | У | Л | Len | |
| Straż<br>Żupan | Ж | У | П | А | Н | Imię chińskie | Л | |
| Г | У | Б | А | Las olchowy | А | Л | Ё | |
| Warga<br>Rak | Р | А | К | Kino | К | І | Н | О |

**Адказ на крыжаванку н-р 12:** касманаўт, касмалёт, Саар, манах, галаман, каса, анагр, Канада. Каскад, каса, смага, мара, бал, лак, Нёман, атаман, нага, жанр.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Альжбета Бухавец-Лубко** з Машчоны Каралеўскай, **Анна Каліноўская** з Махнатага і **Марта Карнілюк** са Спічак. **Віншуем!**

# Было куль!

Вясна!

Адны топяць чучала зімы „Маранну”, іншыя жлукцяць піўцо ды смаляць „файкі” на прагулах. А як прывіталі вясну вучні бельскай „тройкі”?

Яны стварылі кабарэ ды падрыхтавалі на гэты дзень прэм'еру спектакля пад загалоўкам „Куль”. У пастаноўцы выступілі найпрыгажэйшыя дзяўчаты і самыя таленавітыя хлопцы ў нашай школе.

Многа гледачоў задумвалася над значэннем загалоўка. У англійскай мове гэта „супэр”. „А па нашаму — сноп з саломы, як кажуць у Парцаве”, — так гэтае слова рассакрэціла адна настаўніца. І хіба ўсё гэтае мелі на думцы нашы бельскія шпільбергі — стваральнікі кабарэ. Як пазней выявілася, думка нарадзілася на Сустрэчах „Зоркі”. У прадстаўленні выступіла 10 асоб. Сцэнарый складаўся з дыялогаў, песень у розных стылях, пачынаючы ад фальклору на новы лад, цераз disco polo, рап, рэгэ, а закончыўшы на джазе і блюзе. Асабіста цаню моладзь, якая падрыхтавала спектакль на роднай мове ды закранула ў ім праблемы сучаснай моладзі. Маю на думцы каханне і яго паслядоўнасці. Гледачы захапіліся выступленнем сваіх сяброў.

Карыстаючыся нагодай, хачу падзякаваць Аліне Ваўранюк, Алегу Кабзару, Жанэце, Міхасю, Мажэне, Гражыне, Касі, Магдзе, Тамашу і Петрусю перш за ўсё за тое, што спектакль быў на беларускай мове. Сапраўды, было куль!

**Эвеліна Тымашэвіч,**
**VIII кл. бельскай „тройкі”**

* * *

Калі выступ закончыўся, школьнікі не хацелі разыходзіцца на заняткі. Усе бісавалі, таму адбыўся паўтор некаторых сцэнак. Аднак уражанні немагчыма пераліць на лісток. Абавязкова трэба гэта пабачыць, а вучні, якія былі „на вагарах” не ведаюць, што страцілі.

Сапраўды, можна сказаць, што кабарэ „Куль” ёсць куль! Дагэтуль яшчэ ніхто так не развесяліў моладзі, настаўнікаў і дзяцей.

**Ева Прафірук,**
**VIII „а” кл. бельскай „тройкі”**

# Свет думак і свет чыну

*(эсэ)*

Жыхары Каралеўца (зараз Калінінград) паводле шпацыраў Іммануіла Канта настаўлялі свае гадзіннікі. За кожным разам у гэтым самым месцы, у той жа час, паяўлялася тонкая постаць вучонага, які ніколі не бачыў мора, якое было непадалёк яго горада. Як шпацыр, так і ягонае жыццё было педантычна ўладжанае. Будзіўся ён заўсёды ў пяць гадзін раніцы і займаўся працай. У восем гадзін ішоў ва універсітэт і вяртаўся з дакладаў у дзевяць гадзін. У трынаццаць абедаў, потым — гадзінны шпацыр, вяртанне дадому, чытанне і роздумы да дванаццаць другой гадзіны — пастаяннай пары адпачынку. І так усё жыццё, якое звязаў з універсітэтам. Працаваў там сорак гадоў, адмаўляючыся ад іншых, больш прывабных прапаноў. Не толькі жыццю Канта, але і яго творам былі ўласцівыя такія рысы як прастата і суровасць стылю, што выклікала часам уражанне манатоніі — педантычны, павучальна-школьны рытм прамовы. У выказванні думак ён змагаўся за сціласць і логіку, не дбаючы пра прываблівасць стылю і прыгажосць слова; будаваў доўгія складаныя фразы, якія ўжо не аднаго чытача давялі да роспачы. Яго творы цікавяць кожнага. Можна ў іх знайсці пункт развіцця нашай культуры, клямку, якая замыкае эпоху асветы і пачатак новай інтэлектуальнай формы. Кантава сістэма стала пачаткам і распаўсюдзіла новы стыль пастаноўкі пытанняў і адказаў (...). Для Канта завязкай адносін была філасофія чалавека — істоты разумнай і адначасова каштоўнасці самой у сабе. Гэта ўсё меў на думцы, калі фармуляваў свой славуты сказ: „Неба зорнае над галавой, маральнае права ўва мне". Завязка пачынаецца з крытыкі чыстага розуму, інакш — Кантавай рэфлексіі над спазнаннем, яго механізмам, мяжой і вартасцю. Дасюль — кажа Кант — іх пазнанне трэба адносіць да аб'ектыўнага прадмета. Параўноўвалі яго да люстра, прыпісваючы яму цэлую актыўнасць прадмета. Але гэта паясніць мог толькі сапраўдны пункт. Змысл, які абмяжоўваецца да запамятання фактаў. Ён стараецца гэтыя факты злучыць у адну цэласць і зразумець іх. Таму гэты працэс аднaзначны з працэсам канструявання і тварэння ўласнай уявы свету. Канта характарызуе і тое, што ён не паддаецца ніякай дэтэрмінацыі, мае абсалютную свабоду слова.

Павінны мы паступаць так, каб наша максіма паступкаў была паўсюдным правам, агульным. Нельга крыўдзіць людзей, бо гэтым самым распаўсюджваем крыўду. Не трэба хлусіць, бо гэтым спосабам узгадоўваем хлусню, паступаць згодна з нашым чалавецтвам і ў імя чалавецтва даражыць тым, што гэта найважнейшая і неабходная справа. Усе правы чалавека раўназначныя з універсальным правам. Кожны чалавек павінен быць паўнапраўным жыхарам, а яго дабро — найважнейшай якасцю.

Жывучы на гэтым свеце, чалавек яго самастойна ўфармоўвае і дасканаліць.

**Аліна Сіроцкая,**
**VIII кл. ПШ у Чыжах**



*Выдатнікі з VI „а" ў бельскай „тройцы".* Фота Ганны Кандрацюк

# Навучыцца бачыць сваё

18 сакавіка г.г. у БДК адбылася трэцяя сустрэча з цыкла „Вядомыя і невядомыя асобы". Прысутныя мелі магчымасць пазнаёміцца з **Дар'юшам Краснадэмбскім** — археолагам і заадно кіраўніком Падляшскай археалагічнай экспедыцыі. Сустрэча была багатай у атракцыёны, між іншым, можна было паглядзець слайды з экспедыцыі на Падляшша.

**Дзеля якой мэты даследуе сапраўдны археолаг?**

Д. Краснадэмбскі пачаў свае даследы Падляшша ў 1988 годзе, а закончыліся яны ў лістападзе мінулага года. У выніку знайшоў ён шмат экспанатаў з X стагоддзя. Самыя цікавыя знаходкі трапіліся ў Гацьках ды Моньках.

Як сказаў спадар Краснадэмбскі, плануецца дваццацігектарны запаведнік ды занясенне Гацькоў (непадалёк Бельска) у кнігу сусветнай спадчыны прыроды ЮНЕСКО.

Цікава, што цэнім найбольш чужое. Спадар Краснадэмбскі адзначыў, што істотная рыса кожнага чалавека — недахоп захаплення сваім рэгіёнам. Жыхары Беласточчыны часта пакідаюць сваю старонку, каб пабачыць штосьці цікавае ды едуць углыб Польшчы або і па-за яе межы. Не заўважаюць аднак, што Беласточчына — месца цікавае і багатае, якім сапраўды можна захапляцца. Трэба толькі навучыцца бачыць сваё!

**Жанэта Роля**
**і Эвеліна Тымашэвіч**

# У пошуках каранёў

Пасля цяжкага школьнага дня я рашыла пайсці ў кавярню. З'ела там смачнае піроі жнае з крэмам і выпіла гарачае „капучына". Рашыла я таксама зрабіць рахунак свайго жыцця.

Пачала з дзяцінства. Успомніла гульні на панадворку і першыя спробы язды на веласіпедзе. Хутка пабегла я ў хату, каб агляуць альбом са старымі здымкамі, на якіх пабачыла пуцатае прыгожае дзіця. А-я-яй! Гэта ж я! Пасля прыйшла чарга на школьныя фотаздымкі. Я вельмі хвалявалася, калі спазірала на першакласнікаў. Рассмяшыла мяне тое, што амаль усе мы былі ў той час бяззубыя! Потым былі здымкі са школьных танцаў і экскурсіі ў Люблін...

Я зусім не ведала, да чаго дайду. Дык мне толькі чатырнаццаць гадоў ды будзе яшчэ час на аналіз свайго жыцця... І тады я рашыла ўглыбіцца ў сямейныя карані. Я сапраўды нічога не ведала аб маіх прадзедах. Набрала тэлефонны нумар бабулі і дамовілася з ёю на сустрэчу. Мела надзею, што даведаюся шмат цікавага.

Усё ж бабуля нямнога памятала. Яна запрапанавала, каб я пазнаёмілася са старымі запіскамі пра сям'ю. Улезла я на гарышча. Стаяла там вялікая скрыня. Было ў ёй вельмі многа рэчаў, між іншым, лісты і вялікі прыгожы гадзіннік. Хацела я даведацца чый ён быў. Хутка ўхапіла яго і пабегла да выхаду. Раптоўна ў хаце раздаўся крык: я звалілася з лесвіцы!

Гадзіннік разбіўся, а я са зламанай нагой паехала ў бальніцу.

**Ева Прафірук**
**і Эвеліна Тымашэвіч,**
**VIII „а" кл. бельскай „тройкі"**



*Мацей Катовіч з пулявога класа ў час конкурсу „Роднае слова" ў Нарве.* Фота Ганны Кандрацюк

# Любчыны прыгоды

*(амаль дзённік)*

**Як татка з Любкай у магазін хадзілі**

— Тата, купі мне цукерку, — просіць дачушка.

Тата зірнуў — маленечкая цукерка, прыгожая: літаркі на ёй замежныя, а абгортка — так і зіхціць рознымі колерамі. І, пэўна, смачная, калі дзесяць рублёў каштуе. Аднюсенькая.

— А яшчэ, — цягне дачка татку за рукаў, — купі мне вунь тую кніжку.

Татка глядзь: кніжка таксама дзесяць рублёў коштам. А ў татавай кішэні на той час — усяго пятнаццаць.

— Выбірай, дачушка, — кажа тата, — што табе лепш: цукерка ці кніжка? На тое і на другое грошай не хопіць.

— А ты, татка, — памяркоўна раіць дачушка, — купі мне палову цукеркі і палову кніжкі. А заўтра — другія палавінкі адкупім, добра?

**Як Любачка па-беларуску гаварыла**

Любачка ў горадзе вялікім жыла. У якім — здагадацца проста: вялікіх гарадоў не так-то і многа. Ну, калі скемілі, то далей раскажу.

Людзей у тым горадзе надта ж багата, і багата чаго паглядзець можна, а яшчэ болей — дык пачуць. Але так рэдка, каб па-беларуску: што зробіш — Расія! І горад расійскі, і гавораць па-расійску. А па-нашаму — па-беларуску — дык мо раз у год хто слова вымавіць — успомніць нарэшце, што ён беларус, — ці калі забудзе, дзе ён знаходзіцца, — і вырвецца неўспадзеў слоўца жывое, нязмушанае, і такая радасць ад яго, такая цеплыня і пяшчота, што хоць плач! Ды толькі радасць тая — як журавіны няспелыя: няўжо зноў цэлы год чакаць, каб яшчэ хто-небудзь во гэтак забыўся... ой, не! — каб успомніў, чыё малако калісьці піў ды якім паветрам дыхаў... А то мо і не дачакаешся альбо сам міма пройдзеш — не пачуеш у тлуме горада таго вялізнага.

А Любчын татка, як ездзіў у Мінск, дык кніжку там прыдбаў: „Казкі беларускія". Пагартаў яе — і малюнкі прыгожыя, і аздоба, як мае быць: уверсе і ўнізе старонкі — паясочкі саламяныя — ну, як даўней у нас плялі, — во гэтак і намаляваны замест палосак ці арнаментаў друкарскіх. А нумар кожнай старонкі — у плеценым колцы. Сапраўды — нібыта ў казку трапіў. Гартаеш — і не здаволіцца.

А як чытаць пачнеш — дык і зусім млееш: нібыта і праўда бабуля на печы сядзіць і ўнукам ды ўнучачкам казкі баіць...

Любачка ў горадзе вялікім нарадзілася — дзе ёй печ гэткую знайсці?! Ды і бабуля далёка — у Мінску...

Але добра, што татка кніжачку тую ўгледзеў.

Паклікаў Любачку і ўголас чытае. А сам адным вокам пазірквае: ці разумее дачка бацькава чытанне?

А тая — вочкі на татку — ні слоўца не прапусціць. А як скончыў татка казку чытаць, дык пасміхнулася сама сабе і пераказвае бацьку:

— Бач, які пеўнік хітры: лісу абдурыў.

Дашчэнту ўсё зразумела! А слова „пеўнік" так смачна вымавіла — як сапраўдная беларуска! А ў горадзе — расійскім! — жыве.

Вось бы нам гэтак!

*(працяг будзе)*

**Анатоль Кірвель**

# *Свабода па-гуральску*



Міжнародны дзень тэатра быў адзначаны ў тэатры імя Аляксандра Вянгеркі 28 сакавіка г.г. спектаклем варшаўскага тэатра „Мантоўня", які працуе пры Паўшэхным тэатры, — „Śleboda czyli cenniejsi jesteście niż wróble" паводле падгалянскіх аповесцяў Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера.

Тэатр „Мантоўня" працуе ўсяго трэці сезон. Найбольшай марай яго маладых акцёраў, нядаўніх выпускнікоў Вышэйшай тэатральнай школы ў Варшаве, з'яўляецца ўласнае памяшканне. Каб быў будынак з шыльдай: „Мантоўня". Нягледзячы на ўсе нягоды, спектакль гэтага тэатра стаў падзеяй у Беластоку. Трэба падкрэсліць, што адзін з яго акцёраў, Рафал Рутkоўскі, з'яўляецца беластачанінам.

Тэатр „Мантоўня" гэта тэатр „ездзячы". Акцёры шмат іграюць па-за Варшавай. За такі кароткі час яны паспелі ўжо выступіць многа разоў за граніцай. Былі ў Шатландыі, Галандыі, Турцыі і ў іншых краінах. Гэта тэатр тыпу: незалежны, падкрэсліў Рафал Руткоўскі на прэс-канферэнцыі ў тэатры А. Вянгеркі 22 сакавіка гэтага года.

Тэатр „Мантоўня" ў Беластоку выступіў ужо другі раз. На спектаклі „Śleboda czyli cenniejsi jesteście niż wróble" (рэжысёр — Вальдэмар Сьмігасевіч, сцэнограф — Мацей Праер, музыка — Кшэсіміра Дэмбскага) аднолуленая вялікая глядзельная зала нашага адзінага драматычнага тэатра даслоўна лопалася ў швах. Сярод гледачоў былі, бадай, усе студэнты Беластоцкай тэатральнай школы. І мелі рацыю, бо было на што паглядзець.

Здавалася б, што калі ўжо мова пра гураляў і іхні дыялект, дык будзе гуральскі фальклор. У спектаклі, пастаўленым паводле адаптацыі Вальдэмарам Сьмігасевічам аповесцяў Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера пад супольным загалоўкам „Śleboda...", мы бачым не толькі фальклор, але і людзей, іх характары. Для кожнага „Śleboda", што па-гуральску абазначае „свабода", гэта нешта іншае. Для Каські Пэнцакоўскай гэта магчымасць здраджваць свайму хлопцу, для другога гэта разбойніцкая свабода красці і забіваць. Яшчэ для кагосьці гэта кантакт з прыродай. Але ад такога своеасаблівага пачуцця „ślebody" адзін крок да таго, каб даспець да сапраўднай свабоды, да незалежнай дзяржавы, да вызвалення ад палітычнай ці эканамічнай няволі, якая была ў цэнтры ўвагі пісьменнікаў XIX стагоддзя. Пра гэта аднак нічога няма ў падгалянскіх аповесцях Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера.

У яго аповесцях гуралі грэшаць і моляцца, кахаюць і забіваюць, бо гураль як кахае, дык кахае, а як ненавідзіць, то забівае. Адным словам, у кожным чалавеку сядзіць анёл і чорт. І неба ў іх на Падгаллі зліваецца з зямлёю, а горы іхнія — гэта сваё, уласнае неба.

У спектаклі „Śleboda czyli cenniejsi jesteście niż wróble" поўна гуральскай музыкі і гумару, якія падкупляюць слухача. Што датычыцца іх гаворкі, дык, як сказаў Рафал Руткоўскі, гэта больш цытаванне гаворкі, чым гаварэнне. Маладыя акцёры цудоўна спраўляюцца з ёю.

Аж зайздрасць бярэ, калі бачыш, як у беластоцкім тэатры забаўляюцца „гуралі" і колькі людзей прыйшло, каб іх паглядзець. Я разумею, што мо прыйшлі сюды „фахоўцы" і „нефахоўцы" не толькі дзеля таго, каб паглядзець гуральскі фальклор, а мо (і нават перш за ўсё), каб пабачыць ігру маладых варшаўскіх акцёраў, тым больш, што сярод іх ёсць і ўраджэнец Беластока.

Але ўявіце сабе, як марылася б убачыць на сцэне тэатра імя А. Вянгеркі ў Міжнародны дзень тэатра нейкую беларускую п'есу (а з беларускай драматургіі ёсць што выбраць!).

Гінеш або прынамсі робішся ніякім без замілавання да месц, абмежаваных быццам бы вузкім гарызонтам, — напісаў Густаў Герлінг-Грудзінскі. А тэатр А. Вянгеркі, як вядома, знаходзіцца ў Беластоку, і на Беласточчыне таксама фальклору не бракуе.

**Ада Чачуга**

<u>На ўзмежку</u>

# *Твая любоў — твая загуба*

1

Да вялікага ліцвіна завёў мяне італьянец Амічыс, аўтар гулкага *Сэрца*, якое праменіла на мае юныя гады, штурхаючы на дарожныя знаёмствы. На беразе Свіцязі навагрудскі прарок сказаў мне:

— Кіруйся сваім сэрцам. Яно — твой правадыр.

І я паверыў паэту. Узяў напрамак на ўказку. А што ў гэты час рабіў розум? Куды дзеліся вочы? Розум змоўк, а вочы пачалі фокуснічаць: бачылі то руж, то чэрнь — іншыя колеры зніклі. Пачаў я не пазнаваць і рэальнасць, у якой жыў, і абставін, з якімі зжыўся, і людзей, якіх, здавалася, ведаў. Свет мо стаў і цікавейшым, але як бы зышоў з наканаваных віткоў. Тут і падаспеў хітрамудры Ідальга. Не адну зламалі піку. Ветракоў хапала.

2

Неразважна Германюк падгаварыў Шаховіча, здавалася б разумнага журналіста, пададзькватніць роднай вёсцы шыльду. Кастусь Майсеня, тадышні сакратар ГП БГКТ, даў камандзіроўку і сродак транспарту. Селі актывісты ў гэпісцкую карэту і (ту-ту!) кіруюць у Доўгі Брод.

Мігам сабралі сход, выступілі з палымяным словам — і за справу. Знялі польскую (дзяржаўную) шыльду, замацавалі беларускую (сваю) і змыліся. А вяскоўы унтэр Прышыбееў — бах! — рапарт у нядрэмную службу: дыверсія!

Нарад нядрэмных, абследаваўшы месца злачынства, высветліў: Германюк з Шаховічам перасунулі ў некарысць Польшчы дзяржаўную мяжу. І да мяне: „Пакарыць Шаховіча!" Я да Шаховіча:

— Якога чорта перасоўваў мяжу?

— Не перасоўваў! — адпіраецца.

— Не вінаваты Шаховіч, — кажу нядрэмным.

— Вінаваты! — кажуць яны. І тыц мне пад нос рапарт унтэра.

— Дык дайце гэты дакумент. Не магу я караць без удакументаванага доказу.

— Не дамо.

— Тады зробім канфрантацыю.

Прытураю з суседняга пакоя дыверсанта. Той выкручваецца вужом і перад нядрэмнымі. Такім чынам выбівае з маіх рук падставу ўляпіць страгача. А рукі свярбелі.

Праз гады аддзячыць у „Ніве" паклёпам: быццам бы троссяя я са страху перад трыма нядрэмнымі. Які страх!? Я ж не перасоўваў мяжу. Бараніў цябе, героя. Калі і троссяя, то ад гневу на цябе, а хутчэй на Барскага — не настаўляў выхаванца на розум. Усё герой? Таму запісаў у нядрэмныя сакратара ГП, парадачнага чалавека? Бо нядрэмныя хадзілі парамі, іх было двое — „трэцім" маўчаў Майсеня, які ў гэтым спектаклі выступаў як сведка.

А трэсціся можна і перад адным, гледзячы на каго напорашся. Найлепш пазбягаць трасухі: не рвацца ў героі, пачуцці не выстаўляць напаказ, спеліць розум. Прышыбеевы сярод нас, жывучы вывадак.

3

Яшчэ няраз добрасуседства адгукнецца Доўгім Бродам. „Беларусы перасоўвалі граніцу! Далучаліся!" Колькі іх было? Няважна колькі. Хай нават „перасунуў" мяжу Прышыбееў. Знайшлі матэрыяльны доказ? Знайшлі. Намер праваліўся? Ну і што! Былі? Былі. Выступалі? Выступалі. А што наляпалі? Перайменавалі „Długi Bród" на „Доўгі Брод". А такія знакі дзе? На Беларусі. А Германюк хто — германец? А Шаховіч — персідскі шах? Беларусы перасоўвалі мяжу.

4

Вам дзіўна? Мне таксама. Хоць здзіўляцца няма падстаў. Нядрэмныя глядзяць на нас праз лагічны кантаслуп. Бо іх вучаць логіцы. У Прышыбеевых гэты прыбор прыродны, у шэрым рэчыве. Таму не выпучвайце вачэй, калі сусед мусоліць вас вітальнай брамай 1939 года. У яго зрашэчаная памяць — забыў, што ён таксама браму ставіў, шанаваў спрадвечны звычай. У Рыме, ідучыя на смерць, віталі цэзара; каталіцкі Кракаў — напаўпаганскага Ягайлу, Радзівіл — шведаў, цымбаліст Янкель — Напалеона, Алесь Гарун — Пілсудскага, украінцы — Гітлера. У гэтай традыцыі і драбніца добрасуседскіх пачуццяў. Відаць, за пагром у Старым Беразове, новаберазоўцы ўшанавалі *Dziadka* помнікам. Магчыма, у мройных снах, суседзі расстраляных вазакоў Прыбелавежжа здабываюць бронзу для „Бурага". Ужо ў Пушчы ўганараваны жалезным крыжам нямецкія вешальнікі. Такая логіка нашага жыцця.

5

Сідар кажа: — Ва ўсёй гэтай мітусні вінаваты вялікі ліцвін. Заклікаў жа:

— *Miej serce i patrzaj w serce!*

Вось і нашы хлопцы глянулі ў цудоўны твор прыроды. І ўбачылі сябе вялікімі сынамі. Пяройдзем у вякі! Наша справа пачаць, а там — як неўзабаве адгукнецца сэрцагляд Гарбачоў — працэс пойдзе. А дзе вочы? Дзе розум? Спіць. Неактыўны дружбак. Актыўная воля! Яна асновай усяго. З зачатквых нетраў сярэднявечча вызірнуў блажэнны Аўгустын, вучоны муж, іерарх сэрцаглядства. Во якія глыбокія карані. З іх і вырас Міцкевіч — з перавагі ірацыянальных сіл душы над розумам. Калі сціснуць квяцісты тэзіс Аўгустына, выйдзе, што і ў Міцкевіча: „Глядзі ў сэрца і слухай сэрца!"

Трэба меркаваць, старажытны мысляр не пазычаў фразу ў нашага земляка. Хто ж тады падвёў мяне і нашых хлопцаў?

**Георгій Валкавыцкі**

# *Песні па заяўках*

Калісьці ў „Ніве" была такая рубрыка і чытачы былі задаволены ёю. Бо хто з аматараў песні хацеў раздабыць любімы свой твор — песню з нотамі — хапіла толькі напісаць ліст у рэдакцыю „Нівы" каб тая надрукавала яе на сваіх старонках. Кожная просьба была выканана, вядома — па сваёй чарзе. Рубрыка тая, на жаль, прапала, так як прапалі „Парнасік", „Сардэчныя тайны" і многа іншага. І таму „Ніва" стала нейкай „незалежнай" ад сваіх чытачоў, а гэта дрэнна; быццам прызначана вышэйшай сферы: шляхецкай галоце, навукоўцам-беларусістам і паэтам сучаснай паэзіі — „ні шый, ні пары". А мы, большасць — бедная беларуская невучоная галота — сучаснай „Нівай", штораз аголенай, не так задаволены як калісьці. Нават адукаваныя людзі стаяць за намі; і прыклад: адна колішняя сумленная настаўніца і пастаянная чытачка „Нівы", верная беларуска, цалкам не сумуе па камуне, а сумуе па рубрыцы „Песні па заяўках" і іншымі рубрыкамі, пра якія я раней згануў. І калі па чарзе „Ніва" будзе выкідаць са сваіх радоў верных сваіх сыноў і іх працу ў рэдакцыйны кошык, а на іх месцы пісаць пустату, дык „Ніва" ў маім *тэрэне* прападзе цалкам. І так мой калега па працы ў сваім *тэрэне* не ў змозе прадаць і выпісаць ні адной „Нівы". Я неяк паспяваю свае экземпляры „Нівы" прадаваць і яшчэ рабіць падпіску. Але ведайце, што гэта выключна мая асабістая заслуга і ахвярнасць! Я не хвалюся, але гэта праўда. Як мне вядома, „Ніва" і на іншых поштах слаба расходзіцца. І што вы на гэта?

**Мікалай Панфілюк**

**Ад рэдакцыі:** Рубрыка „Песні па заяўках" друкавалася ў „Ніве" ў сямідзесятых гадах. Няма яе ўжо амаль дваццаць гадоў. Відаць, тадышняй і сённяшняй моладзі, у сувязі з пашырэннем тэхнікі аўдыёзапісу і масавай вытворчасці касет з запісамі песень папулярных калектываў, у тым ліку і беларускіх, рубрыка гэта стала непатрэбнай. Ужо прынамсі дзесяць гадоў у рэдакцыю не паступалі лісты з заяўкамі надрукаваць словы і ноты песень.

# Кашуля і гарсэт Падляшша як кнігі засцерагальна-арнаментальных сімвалаў

**Кашулі**

Заварожваюць нас сваёй уладжанасцю, гарманічнасцю, далікатнасцю чырвона-чорныя, чырвона-сіне-чорныя, бела-сінія матывы на каўнерах, лямоўках, манжэтах... Усходняя Польшча — рэгіён які падараваў нам свайго роду чысціню старажытных традыцый народнага касцюма Падляшша і цэльнасць мастацкага канона. Яго адметнасцямі была кашуля і гарсэт. Нават такая простая частка жаночага гарнітуру, немудрагелістая аснова вопраткі дазваляла будаваць самастойныя і разнастайныя мастацкія варыянты.

① 

Стагоддзямі складваліся спосабы апрацоўкі льну і воўны, тэхніка ткання, а таксама звычаі і абрады, у якіх саматканым абрусам, ручнікам, кашулям, плеценым і тканым паясам адводзілася значнае месца.

У старадаўніх беларускіх песнях, вясельных і калядных, створаны паэтычны вобраз дзяўчыны-рукадзельніцы, якая ткала і вышывала для бацькі, брата і жаніха. У кожнай вёсцы былі славутыя майстрыхі, якія стваралі новыя ўзоры, а аднавяскоўкі паўтаралі іх на сваіх кроснах. Спосабы ткання, арнаменты ткачыхі перадавалі як спадчыну сваім дочкам.

У адзенні Падляшша, Заходняга Палесся і Панямоння выразна відаць мясцовы густ і асаблівасць. Усё гэта праяўляецца і ў тым, як вопратка носіцца і ў яго каларыце і кампазіцыйным размяшчэнні арнаментаў на асобных прадметах. Кашуля з'яўлялася ўстойлівай старажытнай традыцыяй ў аздабленні народнага адзення. Арнаментальнасць ільняных палотнаў у тутэйшых мясцінах дасягнула найвышэйшай ступені ў мастацкім афармленні рукава кашулі. Дэманструецца вытанчанасць, пабудаваная на вар'іраванні чыстай плоскасці ўверсе з ромба-геаметрычным і раслінным арнаментамі ў нізе. Дэкор вылучаўся высокай культурай выканання, чысцінёй і тонкасцю ўзораў, а галоўнае — надзвычайнай разнастайнасцю і багаццем рамбічных матываў. Старадаўняя звычаёвасць, дзе шмат увагі надавалася цэласнасці мастацкага твора і дзе не існавала дробязей, праглядваецца ў самабытным завяршэнні краёў — рукава кашулі манжэтай простай на гузік або фальбонкай-званочкам з падобнымі ўзорамі як на каўняры адкладным або стаячым. Даводзіцца, што самым старажытным тыпам кашулі лічыцца адзенне стужкападобнага крою, але амаль перастала з'яўляцца яна ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, дзе на змену прыйшла кашуля з прамымі плечавымі ўстаўкамі, стаячым або адкладным каўняром, сабраная ля каўняра. Дзеля эканоміі матэрыялу сялянкі рабілі яе састаўной — верхняя частка (чэхлік) выраблялася з тонкага кужэльнага палатна. На ніжнюю частку (падточку) ішло больш грубае палатно. Толькі вясельныя кашулі былі з цэлых полак. Тып дамачоўскай кашулі пашыраны ў ваколіцах г.п. Дамачова, паўд.-зах. часткі Брэсцкага і Маларыцкага раёнаў (уздоўж р. Буг), на тэрыторыі Польшчы. Цікавай рысай дамачоўскіх як і падляшскіх сарочак з'яўляўся шырокі (12-15 см) адкладны каўнер вышыты па краях (стылізаванымі кветкамі — раслінным арнаментам або разеткамі геаметрычных варыянтаў). Рукаў завяршаўся простай манжэтай. Зразумела, што не так крой, як кампазіцыйнае вырашэнне, тэхналагічная апрацоўка паасобных дэталяў надавала кашулі грандыёзнасці. Аздаблялася яна маляваным з украпленнямі чорнага арнаменту гладкіх і пункціраваных палос на плечавай устаўцы, верхняй і ніжняй частцы рукава разам з манжэтай. Ніжні ўзорысты шлях рукава дамінаваў над верхнімі палосамі арнаментам зорак, крыжыкаў, зігзагаў і іншых.

Кашуля падкрэслівала ў абліччы, паставе стрыманую велічнасць, годнасць, прыгажосць чалавека. Строгая геаметрычная „пляцёнка"-вышыўка стварала вельмі арыгінальную рытміку паверхнасці рукава. Калі ў цэлым глядзець на дамачоўскі строй жанчыны адразу насоўваецца думка. Ён цікавы стройнасцю і выразнасцю прыталенага сілуэта. Сакавіта-мажорная напружанасць каларыту, падкрэсленая каралямі, гаворыць аб умелым спалучэнні колераў летняга часу.

Адзенне ў традыцыйнай культуры было вельмі важным элементам, якому

② 

прысвячалі жанчыны велізарную ўвагу, не шкадуючы матэрыяльных сродкаў на яго аздабленне. Селянін ці жыхар малога мястэчка мог сціпла, бедна жыць, убога харчавацца, але на торг, царкоўнае свята, вяселле, павінен быў выступіць багата, каб свайму становішчу ў асяроддзі быць дастойным і ўсім паказаць вартасць сваёй асобы, трымаць гонар.

Ці ёсць у нас падставы, каб вылучыць падабенства між падляшскім адзеннем і гарнітурамі жанчын Заходняга Палесся і Панямоння? Так, гэта тэрыторыя этнічна аднолькавая, а уладаўскі і дамачоўскі касцюмы маюць шмат падабенства і толькі маленькія акцэнты гавораць аб розніцах. Кашуля сталася своеасаблівай энцыклапедыяй беларускага народнага арнаменту — старажытнага і заўсёды новага мастацтва. Узор на дамачоўскай кашулі размяшчаўся на ўстаўках і ніжняй частцы рукава разам з манжэтай, аднак ніжняя форма рукава была больш акцэнтаваная. Падобны спосаб размяшчэння арнаменту сустракаем і ва ўладаўскай сарочцы, толькі дадам, што рукаў пераважна завяршаўся прыгожа наморшчанай фальбонкай, таксама аздоблены як просты каўнерчык цікавым арнаментам вышыўкі або тканым узорам — пераборным, браным — надзвычай цікавым у мастацкіх адносінах. У канцы XIX стагоддзя ў аздабленні вопраткі пацвердзілася вышыванне аднабаковым крыжыкам, па выкананні хуткае, па каларыстыцы кантрастнае, з яркім чырвона-чорным або чырвона-сінім узорам, па арнаментыцы — разнастайнае і багатае.

Старажытная язычніцкая культура ў многім таямнічая і незразумелая для нас. Амаль усё забылася, сёння сэнс многіх з'яў і сімвалаў намі невядомы. Але яны захаваліся ў нашым жыцці, у абрадах, вопратцы. Нашыя прадзеды стварылі багатую міфалогію, якая адлюстроўвае іх светапогляд і можа быць супастаўлена з міфалогіяй старажытнейшых цывілізацый. Напрыклад, Зеўс-Пярун, Афрадыта-Лада, Гефест-Жыжаль. Думаецца, нездарма ў ткацтве мы часта бачым па два сімвалы. Адзін — у выглядзе разеткі ці ромба яўна язычніцкага паходжання, другі — жаночая фігура, звязана з хрысціянскай іканаграфіяй.

Мы звыкла ацэньваем тканыя рэчы з пазіцыі прыгажосці, адмысловасці арнаментыкі, гармоніі каларыту. Але народнае ткацтва і вышыўка — яшчэ і бяздонная крыніца культурна-гістарычных звестак. Што ні ўзор — то сімвал. Сімвалы ўраджаю: Спарыш, Рай, Багач. Кожны ўзор мае сваё прызначэнне і сваю назву, напрыклад, „зорачка". Яна пакладзена ў аснову вобраза маці, чалавека, сімвала ўраджаю. Тым не менш ёсць між імі розніца. Аблямоўка пышным вянком з кветак ці пірамiды жытнёвых каласкоў і гэтак далей. Многія майстрыхі ўпэўнены, што тканыя імі вырабы і ўзоры, на іх погляд, вылечваюць людзей. Магчыма і так.

Вышыўка ўстаўкі жаночай кашулі з 1905 года з мясцовасці Кжывовежба раёну Уладавы, на мой погляд, дэманструе найбольш папулярны сімвал ураджаю — Жыценя. Мае ён выгляд разеткі ў выглядзе ромба, ад вуглоў якога адыходзяць па два стылізаваныя жытнія каласы (іл. 1). Нагадвае дажынкавы вянок, які сімвалізаваў паспяховае заканчэнне жніва, да яго і звярталіся за дапамогай у жыцці.

Сімвал „Ярыла-Юрыя" гэта фрагмент арнаментальнай паласы рукава кашулі вышыванай у 1900 годзе жанчынай з вёскі Кжывовежба Уладаўскага р-на. Кашуля з'явілася вобразам амаль кожнай пары года (іл. 2). У славянскіх плямёнаў часоў язычніцтва

③ 

Ярыла лічыўся богам урадлівасці і жыццёвых сіл прыроды. З прыняццём хрысціянства яго месца заняў хрысціянскі святы Юрый Пераможца. Чым глыбей ісці ў арнаментыку тканых ці вышываных твораў, вобраз Ярылы мае нейкае асаблівае, усеахопнае значэнне. Гэта нібы вобраз маці для ўсіх людзей. Вобраз Ярылы абуджае ў нашай душы нешта першароднае — тое, што калісьці давала сілу чалавеку, дапамагала яму выстаяць у барацьбе за жыццё.

Прыкладаў арнаментальных палос, якія ўпрыгожваюць часткі жаночага адзення (кашуль) вельмі шмат і яны расказваюць аб народнай мудрасці вяскоўых жанчын. Адчуванне навакольнага раслiннага і жывёльнага свету сялянкай тонкае і таямнічае (іл. 3).

*(заканчэнне будзе)*

**Івона Марціновіч**

# Буслы

У той час, калі ў Заходняй Еўропе буслы апынуліся пад пагрозай, мы прывыклі да буслянак на будынках, слупах і дрэвах як да неад'емнага элемента краявіду вёсак Беласточчыны. На працягу апошніх 20 гадоў колькасць бусліных гнёздаў павялічылася ў нас на адну трэціну. Ва ўсёй Польшчы жыве чвэрць сусветнай папуляцыі буслоў — 30 тысяч пар. Росту колькасці буслянак пасадзейнічалі самі людзі, якія на дахах будынкаў ставілі штучныя падставы для гнёздаў — драўляныя краты або колы, а таксама амаль сентыментальныя адносіны да гэтых птушак. У Еўропе лічаць іх сімвалам шчасця і „пастаўшчыком дзяцей".

Буслы прывыкаюць і вяртаюцца да сваіх месцаў. У сакавіку або красавіку



*Бусел з Міклашоў Арлянскай гміны.*

з далёкай афрыканскай зімоўкі вяртаюцца самцы. Займаюць яны старыя гнёзды і абараняюць іх ад няпрошаных гасцей, а часам нават праводзяць кровапралітныя баі. Бусел можа чакаць самку ўсю вясну і лета. Часам бусліная пара змагаецца за гняздо ў маі, калі знаходзяцца ўжо ў ім яйкі. Бывае, што побач старога гнязда будуюць новае, хаця нікому не дазваляюць пасяліцца ў пакінутым гняздзе. Надбудоўваюць яны старое гняздо гадамі, аж у канцы ўзнікае вежа вагою пад тону. Гаспадары кожныя некалькі гадоў здымаюць верхнія пласты гнязда, каб выратаваць ад пашкоджання дах і само гняздо.

Калі два буслы сустракаюцца на гняздзе, спраўляюць прывітальную цырымонію пры дапамозе клекатання, якому можа спадарожнічаць шыпенне. Буслы клякочуць у час небяспекі і падчас палавога акту, размахваючы прытым крыламі.

Самка нясе 3-6 белых яек, якія абое бацькі наседжваюць 33-34 сутак. Бусляняты ў пачатковым перыядзе кормяцца дажджавымі чарвякамі і пастаянна ахоўваюцца адным з бацькоў ад холаду, дажджу і спёкі.

Нярэдка буслы выкідваюць з гнязда некаторыя яйкі і птушаняты, калі набліжаецца перыяд голаду, або калі птушаня слабое або хворае. Бусляняты характэрныя чорныя дзюба і ногі. Вылятаюць яны праз 54-55 сутак, а палавую спеласць дасягаюць у 4-5-гадовым узросце.

Бусел белы найчасцей селіцца у вільготнай мясцовасці, каля аквенаў багатых жабамі. Корміцца таксама беспазваночнымі, яшчаркамі, вужамі, дробнымі грызунамі. Адлятае пад канец жніўня, звычайна ў статках з дзесяткаў а нават соцень птушак. У Афрыцы яго асноўным кормам з'яўляецца чырвоная саранча. Хворыя і слабыя буслы, якія не адляцяць на зімоўку, могуць пратрымаць зіму толькі з дапамогай чалавека.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Апошняя мая прафесія — пячнік

**Пра мінулае і гісторыю вёскі Грузкой, што ў Кляшчэлеўскай гміне, расказвае 74-гадовы жыхар Кляшчэляў Ян БАДАВЕЦ.**

— Легенда гаворыць, што Грузкая калісьці знаходзілася на беразе вялікай ракі непадалёк возера. Сведчаць пра гэта некаторыя факты. Прыходзілася мне аднойчы капаць капец пад бульбу. На глыбіні паўметра натрапіў я на чорную зямлю, карэнне дрэў і аеру. Як казалі суседзі, такое ж траплялася і на іншых палях, палоскай шырыні 40-50 метраў. Мабыць, пацвярджае гэта, што плыла тут у мінулым рака. Сведчыць пра гэта і сама назва вёскі.

Па рацэ, як гаворыцца ў легендзе, адбываўся лесасплаў і грузілася многа дрэва ў той ваколіцы. Ад слова „грузка” (лесу, разумеецца — У. С.) і выводзіцца назва вёскі.

Аўтэнтычнасць вышэйзгаданага можна праверыць і на аснове назваў урочышчаў у Грузкой: „Пусткі” — ад пустога (высахлага) рэчышча і „Озерэц” — ад возера, пра якое намякаецца ў легендзе. Тое, што вёска знаходзілася калісьці на дрыгве, сведчаць цяперашнія тарфяныя сенажаці, якія цягнуцца аж пад вёску Снежкі.

Паміж Грузкой і Пятроўшчызнай стаяла царква, побач быў могільнік. Сцены храма ўнутры былі размаляваны іконамі. Пазней царкву перанеслі ў вёску Косьна, што каля Дашоў.

Доўга яшчэ служыла прыхаджанам драўляная царква, перавезеная з Грузкой. Пазней разабралі яе і пабудавалі мураваную, якая па сённяшні дзень тут стаіць.

Ад царквы ў Грузкой захавалася пяць магутных камянёў і копчыкі на могілках.

Вёска наша, як у мінулым, так і зараз, не лічылася вялікай мясцінай. У ёй 36 гаспадарак. Прадзед мой лічыўся багатым чалавекам. Працаваў леснікам у Падмоклах, што непадалёк Навасёлак. Выконваў таксама і прафесію ветэрынара ў панскім маёнтку. Калісьці я знайшоў на гарышчы ў хаце вялікую жалезную іголку. Татуль мне казаў, што гэтай іголкай пакойны дзед яго рабіў завалокі, значыцца, сшываў раны жывёле.

Паколькі бацькаваму дзядулі жылося ў дастатку, дык нашаму бацьку прыходзілася жыць усяляк. Не меў ён ніякай прафесіі. Здабыты нейкі грош прызначаў на выкуп зямлі ад суседзяў і гулянне вяселляў для сваіх сястрыц.

Пры саветах я хадзіў у школу. Першы клас закончыў у Лэмпіцкага. На другую зіму пайшоў да Пюркоўскага. Не закончыў другога класа. У Савецкую Армію не прызываўся.

З дзяцінства прыходзілася мне цяжка працаваць на кусок хлеба. Спачатку быў пастухом, наймаўся пасці авечак і коней. А што ўсё патрапіў зрабіць, таму бацька мой нікуды не хацеў адпусціць мяне. Я і драўляныя падошвы для ботаў рабіў, і краўцоўствам займаўся, яшчэ зараз патраплю касцюм ці шапку пашыць.

Будучы падросткам я ўжо трачку наймаўся рэзаць. І пярсцёнкі для маладажонаў рабіў. Найлепшыя выходзілі з 25-капеечных манетаў (сярэбраных, разумеецца) і польскіх двухзлатовак.

Пры немцах працаваў рабочым у лесе, а пасля будаваў казармы ў Мілейчычах. З таго часу захавалася ў маёй памяці небывалае здарэнне. Аднойчы вяртаўся я дамоў з працы. У той час праводзілася аблава на партызан у ваколіцы Мілейчыч. На дарозе нямецкі патруль праверыў мае дакументы і прапусціў. Калі я прайшоў некалькі метраў далей, пачуў быццам бы бзыканне асы каля вуха. Другое такое „бзыканне” пачулася каля валасоў. На перадзе, з-пад лесу стралялі немцы. Толькі тады я ўцяміў, што страляюць па мне. Я ўпаў на зямлю. Убачыўшы гэта правяраючы мяне раней нямецкі патруль пачаў махаць рукамі да сваіх жаўнераў і тады яны спынілі стральбу.

У 1945 годзе я пазнаёміўся з дзяўчынай з суседніх Паграбоў. Надзя спадабалася мне. Была вясёлай і самай прыгожай. Праз год згулялі мы вяселле. Нажылі трое дзетак. Янка, самы старэйшы, ужо ажаніўся. Жыве зараз з сям'ёй супольна з намі. Працуе на чыгунцы ў Беластоку.

Марыся, сярэдняя дачка, выйшла замуж у Кляшчэлі. Працуе настаўніцай у медыцынскай школе ў Бельску-Падляшскім. І самая малодшая, Настка, не забывае пра нас, бо недалёка, у Кляшчэлях, жыве.

Так, што ў час Каляд, Вялікадня ці прыхадскога свята збіраемся ў сямейным крузе і я расказваю сваім дзеткам, як нам жылося ў мінулым.

Родную вёску пакінуў я ў 1970 годзе. Купіў пляц пад хату ў Кляшчэлях, узяў крэдыт у банку. Крэдыт быў нізкапрацэнтны і таму хутка яго сплаціў. Два гады пазней ужо жыў у сваёй хаце. Гэта дзякуючы палітыцы Герка. Каб меў яго здымак, аправіў бы ў залатую рамку і павесіў на ганаровым месцы. Варты ён таго.

А апошняя мая прафесія — пячнік. Па сённяшні дзень рамантую і стаўлю новыя печкі. І хоць пенсіянерскі ўзрост не надта на гэта дазваляе, не адмаўляю нікому ў паслузе, бо ў гэтай рабоце адчуваю моцнае задавальненне.

**Запісаў Уладзімір СІДАРУК**

# Прадбачыў сваю смерць

Звычайна гавораць: „Што мае быць, тое і будзе”, але тут жа хуценька дадаюць: „Сцеражонага і Бог сцеражэ”. У жыцці, аднак, здараецца такое, чаго ніякай логікай растлумачыць не зможам. Гартаючы рэгіянальную прэсу прачытаў я некралог: „Шчырае спачуванне сям'і Рамана Кудраўца з прычыны напаткаўшага іх гора — трагічнай смерці мужа, бацькі і дзеда”. Далей ішоў подпіс. Папраўдзе, нічога ў тым незвычайнага. Штодня ў кожнай газеце такое знойдзеш. Але я гэтага чалавека ведаў. Улетку нашы ложкі стаялі побач сябе ў шпітальнай палаце.

Быў гэта рослы, гаварлівы, з вялікім вопытам мужчына. Па дзедку Рамане, бо так да яго з пашанай звярталіся, нічуць не было відаць, што носіць ён на плячах амаль поўны восьмы дзесятак і перажытага столькі, што на трох хапіла б.

— Мы аднагодкі з папам, — паўтараў. — На Вадохрышча 79 споўніцца. І гэта ўжо канец, — дадаваў, прызадумаўшыся. Але не перажываў. Зусім так, як бы чакаў вечара.

— Ну, што вы, выглядам і сілаю далёка за сто загоніце, — спынялі мы яго, але ён маўчаў.

Статны, рослы мужчына. Лёгка браў, па адным у руку, два дваццацілітровыя бітоны з супам і кампотам і без ніякай задышкі нёс на другі паверх. Можна сабе ўявіць, якім мацаком быў у маладосці!

Маладосць дзеда Рамана прайшла ў Ружанах пад Зэльвянкай. Папраўдзе, то яна не прайшла, толькі прамільгнула. Абарвала яе вайна, забіраючы ўсіх блізкіх толькі за тое, што мелі хату з ганкам, чатыры каровы, пару коней і дванаццаць гектараў зямлі. На працягу адной ночы застаўся адзін, як калок у плоце. А гэта толькі таму, што не было яго ў Ружанах.

— Але мне гэта не навіна. Так як бы раз ужо пражыў важнейшыя моманты свайго жыцця, — гаварыў. — Знаю іх заканчэнне, але не маю на гэта ўплыву.

Стоячы неяк ля калідорнага акна, ён мне сказаў:

— Вунь там, у канцы вуліцы, за тым дубам, мая хата.

Маё здзіўленне хутка развеялася. У псіхіятрычны шпіталь у Харошчы трапіў ён як „небяспечны для грамадства” за тое, што паламаў рэбры суседу, які кабылу яму скалечыў.

— Ну, гэта маё апошняе лета. Да Грамніц не дажыву. Я гэта ведаў яшчэ ў Ружанах. Яшчэ да вайны адзін старычок даў мне пачытаць кнігу. Дзіўная гэта была кніга, у чорных скураных вокладках, без загалоўка, здаецца. А можа я яго не памятаю. Ноччу трэбы было яе чытаць, без сведкаў і не аглядаючыся. Памятаю, як чытаў яе, то толькі пошум скразнякоў ішоў. Але ўсё можна было спазнаць, — паківаў галавою дзядуля.

І тут я пачуў ад яго такое:

— Не паверыш пэўна... Я таксама не даў бы веры, каб на сабе не спазнаў. Чытаў я кнігу тры ночы на гарышчы, дзе спаў улетку. Дачытаў да апошняй старонкі, закрыў так, як мне старычок сказаў і заснуў. Дзіўны гэта быў сон. Сон, не сон, як бы сапраўдным усё было. Лета. З неба льецца жар, аж дыхаць няма чым. Іду я знаёмай ружанскай вуліцай проста ў піўную смагу ўтапіць. Чую як шчыпае ў глотку халоднае пеністае піва. Выпіў, адставіў кубак і выйшаў у напрамку Зэльвянкі на кароў глянуць. Прайшоў можа крокаў дваццаць, як нейкая фурманка наганяе. Спынілася каля мяне і незнаёмы мужчына гаворыць мне: „Сядай!” Я пачаткова аднекваўся, але той настойваў. Сеў, а ён мне лейцы ў рукі і едзь, моў. Паганяю, а перад вачыма ўсё маё жыццё праляцела. І ўсё-ўсянютка збылося. Быццам бы паўтарыўся сон у рэчаіснасці. І чым далей еду, тым цяжэй коням, тым больш дзівосная акруга. Страшней робіцца. І я нейкі прыдзірлівы ды дзіўны раблюся. Чую, што атакуюць мяне нейкія злыя моцы, страшна робіцца. Выразна адчуваю, што раздзяляюся на двое. Нехта страляе па мне, але болю не чую. Гляджу сам на сябе і смяюся. І, раптам, перад вачыма самае страшнае... Крычу, прашу паратунку. І тут аднекуль паявіўся светлы празрысты прамень. Усё пачало малець, аж знікла ў белі. І тады той страшны піск...

У адзін студзеньскі суботні вечар дзед Раман выбраўся наведаць унукаў. Толькі на другі бок вуліцы да блёкаў, дзе сын жыве. Было цемнавата і слізка. Святла, што ад месячнага бляску адбітага ад снегу. Невядома, ці пачуў піск тармазоў. Шафёр не мог у час спыніцца. Раман загінуў пад коламі. На месцы...

**Міхаль ПАШКОЎСКІ**

*(імёны зменены)*

# Яўрэй яўрэю не роўны

На аэрапорце ў Нью-Йорку прыйшлося мне стаяць у чарзе. На абшлагу ў мяне быў флажок з маім прозвішчам ды надпісам Польшча, што астаўся мне пасля з'езду паэтаў у Вашынгтоне. Побач стаяў мужчына з дарослым сынам. Ён першы адазваўся да мяне на рускай мове. Аказалася, што нарадзіўся ён у Савецкім Саюзе, ваяваў на фронце а пасля выехаў у ЗША і гандлюе гаручым.

Я запытаў яго, ці валодае ён іўрытам, каб чытаць Біблію і малітоўнікі. О, што гэта то не! — ажыўлена ён падкрэсліў, кажучы, што ён — атэіст. Выхоўваўся ў прытулку, дзе з самага пачатку праследавалі рэлігію. Выхавацелі загадвалі дзецям крыкнуць: „Божа, дай нам цукеркі” і казалі: „Самі бачыце, што Бога няма, бо інакш даў бы”. А калі дзеці крычалі: „Сталін, дай нам цукеркі”, з дзіркі ў столі сыпаліся ласункі...

Я поўнасцю згодны з артыкулам Міхаля Панфілюка „Праўда пра яўрэяў” („Ніва” н-р 7/1999) з адной адзінай агаворкай, каб мы гаварылі аб **веруючых** і **практыкуючых** паслядоўніках Майсея. Такімі яны больш-менш былі да кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі і да 1939 года ў Польшчы. Атэістычнай была сацыялістычная рабочая партыя Бунд (1897—1921) у першай, а ў апошняй ад 1918 была гэта самастойная партыя, якая ў 1923 г. уступіла ў камуністычную партыю і была распушчана ў 1948 годзе.

Калі войска генерала Булак-Балаховіча (саюзніка Пілсудскага) ўварвалася ў горад Пінск на Палессі, яно білася з „чырвонымі яўрэямі”.

Нагадаем, што Чырвоную Армію стварыў Леў Троцкі (Л. Д. Бранштэйн). Апрача яго ў „вярхах” было шмат яўрэяў і таму бядота спадзявалася, што пасля царскіх пагромаў настане новая эра. Аднак Сталін хацеў знішчыць усю савецкую яўрэйскую інтэлігенцыю і перашкодзіла яму толькі ягоная смерць у 1953 годзе.

У Савецкім Саюзе нельга было вывучаць стараяўрэйскую мову, бо яна амаль выключна кранала рэлігійныя тэмы. Таму 900 000 іміграцтаў з Расіі ў Ізраіль не ведаюць усіх абрадаў і дрэнна валодаюць іўрытам і ахвотна гутараць між сабою на мове Пушкіна. З-за таго ёсць там і рускамоўныя газеты. Дарэчы, выпускаецца і польскамоўнае выданне, заснаванае выгнанымі з нашага краю журналістамі.

Сярод карэнных жыхароў бачны розніцы ў дбайнасці пра абрады, асабліва ў адносінах да святкавання суботы (па-жыдоўску — „шабэс”). Гэта адлюстроўваецца і ў ідэалогіі палітычных партый Ізраіля, якія ўваходзяць у Кнесет, г.зн. іхні парламент.

Яўрэйская вера дзеліцца на: юдаізм артадаксальны, традыцыйны і рэфармаваны (у ЗША). У апошнім рабінамі могуць стаць і жанчыны.

Згадаць трэба і пра працэсы дабравольнай і прымусовай асіміляцыі. Калі ў 1391 г. усіх іспанскіх яўрэяў прымусілі прыняць хрысціянства, тады частка іх, мараны, патаемна і далей практыкавала свае традыцыі. У час апошняй сусветнай вайны некаторыя яўрэі фармальна прымалі каталіцкую веру, каб пазбегнуць галакосту. Адзін стаў нат святаром. Жыў у Марках пад Варшавай. На жаль, калі левабярэжная сталіца была ўжо свабоднай, захацелася яму пабачыць зруйнаваны горад і забіў яго аўтамабіль.

Нашмат раней купец Бэрэк Йосэлевіч (1764—1809) сфармаваў у арміі Варшаўскага княства жыдоўскі полк кавалерыі і гераічна паў пад Коцкам ля Любліна. Перад вайной былі яўрэі, якія ў рубрыцы „нацыянальнасць” пісалі „паляк”. Цяпер, магчыма, у Польшчы жыве яшчэ амаль 100 000 патомкаў Абрагама. Галоўныя сінагогі знаходзяцца ў Варшаве, Лодзі, Вроцлаве і Дзержанёве на Шлёнску.

Гэтая этнічная меншасць мае свой ілюстраваны двухтыднёвік „Słowo Żydowskie” (Варшава) рэдагаваны напалову папольску і напалову па-жыдоўску (ідыш).

**Сэрафін КОРЧАК-МІХАЛЕЎСКІ**

# Пародыя

Не думаў я пісаць гэтай адгалоскі, але калі прачытаў сказ „калі адмовіцеся ад гэтага, буду лічыць вас чалавекам несур'ёзным, пустаслоўным" Уладзіміра Сідарука ў артыкуле-адгалосці п.з. „Пра адно думаем, аб іншым гаворым" („Ніва" н-р 11)... Такіх „разумных і разважлівых" як вы, хіба сярод беларусаў Беласточчыны сёння не знойдзецца. Хаця не падумайце, паважаны дружа, што я настолькі дурны і наіўны, каб не змог зразумець вашай „падзякі і абароны" ў вашым допісе „Напішам пяром..." („Ніва" н-р 6); тут няма ценю сумнення як вы „бароніце" мяне. І самі точна пішаце зноў: „Прызнаюся шчыра, што ў допісе «Напішам пяром» я не думаў вас бараніць перад Мікалаем Лук'янюком..." Вы таварышы і цяперашнюю рэчаіснасць вы цярпець не можаце, і „Салідарнасць" таксама не пераносіце. І ніколі не паверу, што вы ад сэрца ўступілі ў „Салідарнасць". Вашу „падзяку і абарону" я з месяца разгадаў, што гэта толькі ваша гульня, лічыць — пародыя, і таму адказаў гэтай самай манетай — пародыяй, якую назваў „Сяброў знаходзім у бядзе" („Ніва" н-р 8), а таксама другім артыкулам, але ў справе М. Лук'янюка п.з. „Шчырае дзякуй Мікалаю Лук'янюку" („Ніва" н-р 5) — гэта таксама пародыя і жарт, бо нават малое дзіця прачытаўшы нападкі М. Лук'янюка на мяне ў яго допісе „Рак палез наперад" („Ніва" н-р 2) і мой адказ-„падзяку", зразумее, што тут выступае адваротная старана і Панфілюк „падзякаваў" каб спыніць нападкі на сябе. І слушна мяркую, што кожнаму, хто нападае як крумкач — даць сваю пародыю-„падзяку". І тады не будзе за што ўчапіцца а таксама пагразіць судом. Дык верце, паважаны Сідарук, што вы ў мяне не варты ніякай ад сэрца падзякі. Вы лічыцеся вялікім „абаронцам" праўды, а таксама гуманным і культурным чалавекам; не так? А помніце, як некалькі гадоў таму мы выпадкова сустрэліся ў рэдакцыі „Нівы" і як вы мяне прывіталі па пятнаццаці гадах „разлукі"? Я вам нічога не адказаў, прамаўчаў, бо быў ашарашаны і не спадзяваўся такой „ветлівай" сустрэчы. Вы, помню, прапанавалі мне якуюсь гарэлку, добра ведаючы, што я яе цалкам не п'ю. Вы нават не хацелі са мною і пагаварыць, як беларус з беларусам і пайшлі ў суседні пакой весці сваё бесталковыя маналогі. Хай я чалавек неразважлівы і маю найгоршыя рысы характару, аднак ніколі і нікога так не сустрэў, як вы мяне тады сустрэлі. І таму найлепш пільнаваць свайго носа і добра яго вычэршы толькі тады гаварыць і павучаць хто разумны а хто не, хто сур'ёзны а хто несур'ёзны, хто слоўны а хто пустаслоўны і хто шчыры беларус а хто не. Стараецеся змяшаць мяне з балотам і зрабіць ворагам „Нівы" і беларускай мовы, а гэта толькі таму, што не згаджаюся з вашымі думкамі. Вы ж ніколі не асудзілі камуну „з людскім рылам", дык на вас „загарэлася шапка" і вы за яе ўхапіліся. Добра ведаю, што Лук'янюку дапамог у пісанні плюгаўства „Рак палез наперад" (даставіў неабходныя салідарніцкія газеты) яго верны таварыш (будзьце спакойны, Сідарук, гэта не вы), але гэту дурніцу я не бяру ў галаў.

А ці я добра зрабіў хвалячы В. Петручука? Бо асабіста з маёй стараны ён не варт гэтай пахвалы і не маю ніякіх падстаў падлізвацца яму. А пахваліў ад сэрца і гэта ўжо не пародыя. Калісьці сам Ленін пахваліў Аркадзя Аверчанку (белага пісьменніка-гуманіста) за яго антыбальшавіцкую кніжку „Дюжина ножей в спину революции". І няхай пахваляць Петручука яго верныя сябры, так як я пахваліў. Кожны чалавек, як і народ, хай ён і найлепшы, аднак мае і адмоўныя бакі і патрапіць свінствы ўчыніць. І таму аднаго чалавека я раз пахвалю, а пасля зганю — па заслугах. Бо няма дасканалых; толькі сярод бальшавікоў былі „такія". А тое, што Сідарук шкадуе і сумуе па „царыку", што мы прагналі ад улады — дык мой адказ: з Сідаруком не хачу мець нічога супольнага! На яго лаянкі адказваць не буду.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Мельніцкая дэмаграфія

Мельніцкая гміна — найбольш высунутая на поўдзень частка Падляшша. Займае яна плошчу ў 200 квадратных кіламетраў. Зараз у гміне пражывае 3200 чалавек. Мельнік налічвае каля 940 жыхароў. Насельніцтва гміны састаўляе: 690 чалавек ва ўзросце да 18 гадоў, 1560 — ад 19 да 60 гадоў і 950 — звыш 61 года. Жанчыны пераважаюць па колькасці — іх на 100 больш чымсьці мужчын. Праважаюць тут праваслаўныя і каталікі.

Шчыльнасць насельніцтва складае 16,5 асоб на 1 квадратны кіламетр. Яна адна з найменшых у нашай краіне і ў Еўропе.

57% тэрыторыі Мельніцкай гміны займаюць лясы, 27% ворныя зямельныя ўгоддзі ды 12% — сенажаці і пашы.

А як было ў мінулым? У 1580 годзе ў Мельніку былі 252 дамы. У 1655 годзе горад быў датла знішчаны шведскім „патопам". У 1799 годзе Мельнік меў 141 дом і налічваў 822 жыхары. У 1831 годзе тут шалела эпідэмія халеры, ад якой памерла многа людзей. У 1921 годзе, тады яшчэ горад, налічваў Мельнік 184 дамы і 1091 жыхара, а ў 1931 годзе — 1389 чалавек. У 1934 годзе ён страціў гарадскія правы.

**(гай)**

# Абкрадаюць чыгунку

Ноччу з 22 на 23 сакавіка г.г. на чыгуначнай лініі паміж Вітавам і Палічнай зладзеі парэзалі чатыры тэлефонныя правады з бронзы на адрэзку амаль пяці кіламетраў. Калі б спалучыць усё ў адну нітку, атрымалася б каля дваццаці кіламетраў правадоў вагою каля адной тоны. Паліцыя забяспечыла сляды на месцы злачынства. Як аказалася, зладзеі карысталіся трактарам і было іх праўдападобна чатырох. Гэта не першая пакража тэлефонных правадоў на чыгуначнай лініі. Тры гады раней, у студзені 1996 года, зладзеі парэзалі правады паміж Чаромхай і Кляшчэлямі. Укралі тады чатыры правады на адрэзку сямі слупаў (агульнай даўжыні каля 1400 метраў).

Першая спроба пакражы паміж Арэшкавам і Гайнаўкай у 1998 г. не ўдалася. Паліцыя заспела зладзеяў на месцы злачынства, калі тыя спрабавалі парэзаць першы провад. Тады спрацавала засцерагальная тэхніка.

Няўжо няма такой тэхнікі цяпер? Адно вядомае: чыгуначная сувязь пацярпела вялікія страты. Калі зладзеі не будуць выяўлены, усяго можна спадзявацца. А гэтага нельга дапусціць!

**Уладзімір СІДАРУК**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Неадночы сніліся мне сны, але ўсур'ёз я гэтага не ўспрымаў — от, спіцца, то і сніцца...

Але тое, што мне нядаўна прысніласся, не дае мне спакою. А вось што.

Я на панадворку, растуць там дрэвы, трава і... стаяць прастолы, такія, як у царкве. А на іх гараць свечкі. Многа іх.

Прачнуўся я і расказаў сон жонцы, а яна — ні так, ні сяк, хто яго ведае, адказала абыякава. Але ж падумай, у наступную ноч ізноў запаленыя свечкі прысніліся. Ну, кажу, пішу я Астрону. Ці хаця не што дрэннае чакае нас абоіх...

**ФЁДАР з Сакольшчыны**

Мне, Астроне, прысніўся бацька. Ён ужо не жыве. Па прафесіі ён быў шафёрам. І быццам бы прыехаў ён з таго свету да мамы цудоўнай прыгажосці грузавіком. Памятаю, што апрануты бацька быў у доўгае бэжавае паліто.

Я запыталася ў бацькі, ці гэта яго машына, а ён мне паказвае, што вунь яна стаіць на двары. А пасля бацька прытуліў мяне і быццам бы расплыўся ў імгле.

Гэты сон сніўся мне ў ноч з суботы на нядзелю, а ў панядзелак памерла мая бабка, бацькава маці. Ты, Астроне, калісь пісаў, што калі сніцца бацька, дык будуць нейкія прыкрыя справы, клопаты. Ці гэты сон мог прадвяшчаць смерць бабкі? Ці гэта быў якраз той клопат?

**КРЫСЯ**

Адказваю па чарзе. Ты, Фёдар, дарма перапужаўся. Свечкі сніць не заўсёды кепска. Калі б яны былі пагаслыя, то сапраўды прадвяшчала б гэта табе цяжкую страту. Калі ж свечкі гараць, дык можаш быць спакойны, што нічога кепскага не здарыцца і будзе ўсё ў парадку. Свечкі, якія гараць, абазначаюць захапленне пытаннямі рэлігіі і веры.

Крыся! Бацька на самай справе абазначае кепскія навіны, клопаты. Гэта датычыцца бацькоў, нават калі яны ўжо не жывуць. Так што ты добра мяркуеш: твой сон пра бацьку-нябожчыка мог прадвяшчаць смерць тваёй бабкі, ягонай маці, якая пайшла на той свет услед за ім.

**АСТРОН**

# Непатрэбная крама

У шасцідзесятых гадах тадышні старшыня ПЗГСу ў Гайнаўцы Канстанцін Майсеня правёў акцыю будовы вясковых крамаў на Гайнаўшчыне. Адной з такіх будоўляў з'яўляецца крама ў Бялках, пры якой многа працы ўлажылі самі вяскоўцы. Прадаваліся ў ёй усе неабходныя сялянам тавары.

Калі ў пачатку дзевяностых гадоў абанкруціліся дзяржаўныя прадпрыемствы, упаў таксама ГС у Нарве, якому належала бялкоўская крама. Ліквідатар абанкручанага ГС для пагашэння даўгоў стаў прадаваць будынкі. Крама ў Бялках была прададзена за сімвалічныя 1000 злотых, проста за бясцэнак. Жыхары да гэтай пары не ведаюць хто яе купіў. Будынкам у далейшым ніхто не цікавіцца. Стаіць ён з разбітымі шыбамі, адчыненымі дзвярыма і працякаючым дахам. У сярэдзіну заходзяць жулікі, паскудзяць. Жыхарам вёскі, якія калісьці будавалі краму, моцна баліць сэрца, што так марнее іхняя праца.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Няма гаспадара

У заходняй частцы Нарваўскай гміны, асабліва ў Бялках, Агародніках, Саках, Трасцянцы і Сацах вельмі многа зямлі V і VI класаў ляжыць аблогам. Нават у далінах рэчак Малынкі і Рудні, дзе калісь раслі высакаякасныя травы, цяпер пераважаюць крапіва ды асот. А даліна Нарвы на адрэзку ад мястэчка да Пухлаў таксама стала рэзерватам прыроды. Безгаспадарная зямля засталася ад колішніх калгасаў і належыць яна цяпер аддзяленню Сельскагаспадарчага дзяржаўнага агенцтва ў Сувалках. Гэтую зямлю сяляне ў арэнду не возьмуць, не купіць яе і камбінат „Рольмак" з Макаўкі. Новыя ўладальнікі не клапоцяцца пра яе добраўпарадкаванне, а варта было б перадаць аблогі Адміністрацыі дзяржаўных лясоў і зрабіць на іх лесанасаджэнні. Можа нашы ўнукі калісьці прыязджалі б сюды на грыбы?

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

## *ЦГА „Польшча-Беларусь":* новы адрас

Управа Цэнтра грамадзянскай адукацыі „Польшча-Беларусь" паведамляе, што 1 красавіка г.г. установа памяняла сваю сядзібу і адрас. Новы адрас: **ul. Lipowa 25/3, 15-424 Białystok, tel./fax (+48 85) 744 55 37**. Адрас электроннай пошты (e-mail) надалей

*polska-bialorus@sitech.pl*



**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.



# Ніўка

*Białoruiskie pismo społeczno-kult… współczesności, historii, literatury i …*
*Białystok-Krynki. Nr 4 (99). Kwiecień 1999. Nr …*

W Białymst…

© „Czasopis”

Будзем мець „Ніву” для вучняў прадмета беларускай мовы, якія па-беларуску ўжо не загавораць у прыватным жыцці. Будзем мець беларускамоўнае радыёвяшчанне з польскім акцэнтам. Такія ж і тэлеперадачы. І той жа „Часопіс” з элементарнымі памылкамі ў беларускіх тэкстах, затое прыгожа беспамылковы ў польскіх. Будзем мець святароў, у якіх адзіным няпольскім словам застанецца царкоўна-славянскае. Будзем выдаваць беларускія кніжкі накладам у дваццаць пяць штук, бо столькі знойдзецца кліентаў сярод чвэрці мільёна праваслаўных.

Усё наша будзе зведзена да мініяцюры беларускага духа, але напэўна ўжо не будзе праблемы з грашыма дзеля таго (яго). Еўропа ж!

**Сакрат Яновіч**

P.S. Literatura bialoruska, tworzona w jezyku polskim (rosyjskim) mnie nie

# Кароткі курс параноі

**НАТАўцы паняволі**

Урэшце нашы павадыры без нашай волі ўвялі нас у НАТА. Кажуць, дэмакратычна, ажыццяўляючы адвечныя памкненні.

— Мы ўжо ў свабодным доме! — уздыхнуў з палёгкай вызваленага ГУЛАГаўца Юрась Бузук.

— Аб чым ён? — навастрыў вушы Вялікі Электрык. — Дык у чыім доме жылі мы дзесяць год, калі я вывёў вас з Пакутнай зямлі? — лыпаў няўцямнымі вачыма.

— У сваім, — патлумачыў адсталаму электрыфіктару мудры Санюта Квас. — Але вісеў над намі меч Лукашэнкі.

— Цяпер дамо прыкурыць калгаснай гнёздзе! — дзвынкнуў бліскучымі шпорамі апаранутьі пад улана міністр абароны.

— Цяпер — мы! — падтрымаў міністра дучэ.

— На Лукашэнку! — вытыркнуўся, як Пiліп з канапель, *pan Zenon*, экзыльны антылукашэнка.

— На гніду! — падхапіў кінутае фанабэрыстым уланам слова *pan Stanisław*, антылукашэнка падпольны.

Ваяўнічых рупліўцаў астудзіў разважны міністр замежных інтарэсаў. Узняўшы ў блакітную столь прафесарскую бародку, ён глыбокапаважна спытаўся:

— Панове браты, а што на гэта скажа Вялікі Брат? Дык за ім вырашальнае слова. Ці ж вы забылі ягоны наказ: усходняга мядзведзя не чапаць? Мы ў НАТА. А гэта абаронча пакт.

Прысаромленыя госці, праклінаючы ў душы Сексаголіка, апусцілі насы і ў журботным настроі пакінулі ўрачыстую сустрэчу. Нашым павадырам свята не сапсавалі. Яны няўдачнікаў праігнаравалі. Юрась Бузук і Санюта Квас, абняўшыся, віравалі ў эйфарыйным танцы-парадзе і з вышыні свайго рангу ўпярэмешку ўзбуджана вяшчалі:

— Я!

— Я!

— Гэта ўсё я!

— Я!

— Мне дзякуй, народзе!

— Мне!

У сваю чаргу натаапрануты ўлан апантана малоў пра нейкую „першую лінію”:

— Я цяпер на першай лініі! — захліпаўся ад шчасця. — Я — першалінеец! — выпучваў грудзі.

— Усе за аднаго, адзін за ўсіх! — храбрыўся.

— Я гатоў! — кляўся.

— *Wolnoć Tomku w swoim domku!* — падагуліў узнёслую ўрачыстасць Вялікі Электрык, забыўшыся на падзею, дзеля якой зышлася павадырская эліта. А мо ляпнуў старапольскім выслоўем так сабе, без палітычнага падтэксту? Ён, вядома, за словам у кішэнь не лезе. А хутчэй за ўсё, яму і ў НАТА не надта.

Як і мне.

**Сідар Макацёр**

**Кароткі натанайменны слоўнік**

НАТА. Ад Наталій, Наталія (лат. *natalis* — родны).

Ната, Данат, Даната, Натан, Рэнат, Рэната, Фартунат, Фартуната.

Натала, Натначка, Наталенька, Наталечка, Наталка, Наталанька, Наталачка, Наталушка, Наталька, Наталюшка, Натальля.

Натанечка, Натанька, Натанюшка, Натаня.

Натаха.

Натачка.

Наташа, Наташанька, Наташачка, Наташка, Наташонка, Наташонак.

Натка.

Наток.

Натоленька, Натолечка, Натолька. Натоля.

Натоха.

Натоша, Натошачка, Натошка.

Натуленька, Натулечка, Натулік, Натулька, Натульчык, Натуля, Натуня.

Натусенька.

Натусечка, Натусік, Натуська, Натуся.

Натушка.

Націк.

Фрашкі пра нашых

## Ой, хмелю, хмелю...

Дзе ні старонка — там можа быць жонка.
Смак той адчуеш, як век свой звякуеш.
Вабяць прыўкрасы; хоць стары — ласы,
Сам — адзін мёд у семдзесят год.

Бабка як пірог — з ёю на мурог.
Бабка як печка — з тою ў пух легчы.
Пташка-спявачка — з ёю паскачаш.
А тая з-за мяжы — вось бы з ёй пажыць!

Мішка смяецца — як хмель на тычку ўецца!

**Вандал Арлянскі**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. вялікі японскі горад, 4. горад на поўначы Хонсю, 6. халодная калючая зброя з прамым доўгім клінком, 7. расліна сямейства злакавых, падобная на авёс, 9. Бусон, японскі паэт (1716—83), 11. горад на поўначы Германіі, 12. Рэдзьярд, англійскі пісьменнік (1865—1936), 13. частка прасторы, абмежаваная сферай, 15. сфера дзейнасці, 17. дзяржава з Капенгагенам, 18. Пётр, славацкі пралетарскі пісьменнік (1901—49), 19. аўтамабіль з таксометрам.

**Вертыкальна:** 1. галіна мастацтва ў старажытнай Грэцыі, 2. японская выспа на поўдзень ад Хонсю, 3. найлепшая абарона, 4. Вацлаў, беларускі нацыянальны дзеяч (1880—1943), 5. браты Аляксандрас і Дзімітрас, кіраўнікі грэчаскага паўстання ў 1821 годзе, 6. слонімская рака, 8. Эўклідас да, бразільскі пісьменнік (1866—1909), 9. невялікая прэснаводная касцяністая рыба сямейства акунёвых з калючымі плаўнікамі, 10. зямельная мера, роўная 4047 м², 14. рака на поўначы Паўднёвай Амерыкі, 16. жалезны ліст, 17. службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім, якая затрымлівала і даставўляла абвінавачанага ў суд.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 10 нумара**

**Гарызантальна:** Ананд, Гутэнберг, салон, армяк, Алі, кенгуру, Оксфард, кіў, аймак, малёк, Шатландыя, калач.

**Вертыкальна:** Барнаул, Антон, Дзэва, Гільгамеш, гемафілія, схема, карак, Аук, Іоў, Ізраіль, каток, Мадач.

Рашэнне: **Рыгор Хадкевіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яраславу Бялькевічу** з Чыжоў і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Адгалоскі

## „Запіскі памешанага”

Наш дубіцкі Іванушка ў маім „Пану Філюку” ўбачыў сябе і абрынуў на мяне фуру гною. Яшчэ і прыкрыўся маайскім імунітэтам:

— Апляваў цынізмам простага чалавека, селяніна і самавука! — дакарае.

А ці я, чалавеча просты, назваў тваё імя — прозвішча? Ці ж я вінаваты, што ты добраахвотна атоесніўся з маім героем? Сляпую злосць пусціў ты ў дурным кірунку. Бо я не злоўчны вораг „Парнасіка”. І не аб ім была гаворка. „Маайскі веснік” — не „Парнасік”. І твой справядлівы гнеў дарэмны. А між дужкамі: колькі можна ганарыцца невуцтвам? Ты ж не прэзідэнт, а „просты мужык”. Значыць, меў за паходжанне дадатковыя пункты. Чаму не вучыўся? Дый ніколі не позна падвучыцца, даць літаратурным амбіцыям глыбейшае абгрунтаванне.

Не магу толькі сваімі высахлымі мазгамі ўцяміць, чаму наш Іванушка пачуўся раптам панам?

Плюючы цынізмам

**Сідар Макацёр**

## „Даўціп” Андрэя Гаўрылюка

Паліцыянт затрымоўвае аўтамабіль да кантролю і выяўляе, што не працуе спідометр.

— І як вы ўстанаўліваеце скорасць сваёй машыны? — пытае вадзіцеля.

— Гэта вельмі проста: калі перавышаю шэсцьдзесят, пачынаюць трэсціся шыбы, калі перавышаю семдзесят — трасуцца крылы, а калі дзевяноста — трасецца ўвесь кузаў.

— А калі перавышаеце сто?

— Тады пачынае трэсціся мая жонка.

Усур’ёз ды бясплатна

## *Кароткія сяброўскія аб’явы, віншаванні, etc.*

- Валодзю Гайдуку з Полымя з пачаткам новай вясны пажаданні ад паэтак.
- Віншую Тамаша з днём нараджэння. **Лялік**.
- Мне 15 гадоў, вучуся на першым курсе Пінскага педагагічнага каледжа. Вельмі хацелася б мне знайсці сяброўку па перапісцы ў Польшчы. Я захапляюся музыкай, спортам; цікаўлюся гісторыяй і культурай Беларусі ды роднага горада. Магу перапісвацца на беларускай, англійскай або рускай мовах. **Кацярына Касцюковіч, вул. Завальная 3-46, 225710 Пінск, Беларусь.**